

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 19 студзеня 1990 г. № 3 (3517) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


●

Гэтыя здымкі зроблены ў мінулую пятніцу ў Доме літаратара, дзе адбылося сапраўднае свята народнага мастацтва. Са сваімі песнямі, танцамі, абрадамі, атрыманымі ў спадчыну ад дзядоў і прадзедаў, знаёмілі прысутных лепшыя фальклорныя калектывы Гродзеншчыны.

Вечарына ў Доме літаратара — першая ў агледзе скарбаў аўтэнтычнага фальклору, наладжанага Міністэрствам культуры БССР сумесна з Саюзам пісьменнікаў і Дзяржтэлерадыё рэспублікі. Гледачоў чакаюць сустрэчы з фальклорнымі калектывамі ўсіх абласцей Беларусі і горада Мінска.

●



Выступае танцавальны калектыў з в. Акмінава Навагрудскага раёна.



На дудзе іграе А. Лось з в. Зарудзічы Смаргонскага раёна.



Народныя музыкі з в. Раманавічы Дзятлаўскага раёна І. Глушкевіч і Л. Мілевіч.

Фота Ул. КРУКА.



НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

## ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

Увечары 25 студзеня ў мінскім клубе імя Дзяржынскага будзе гучаць музыка ў выкананні юных віртуозаў з Масквы, Горкага, Мінска, лаўрэатаў усесаюзных і міжнародных конкурсаў.

Дабрачынны канцэрт у фонд дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, арганізуе нядаўна створаная пры Музычным таварыстве БССР суполка «Метраном».

Дзецям дапамагаюць дзеці. Самаму маленькаму ўдзельніку канцэрта, віяланчэлісту Колю Гімалетдзінаву — 7 гадоў. Ён пакарыў сваёй непасрэднасцю і майстэрствам не толькі суайчыннікаў, але і дрэздэнскіх слухачоў.

У праграме таксама выступленне вядомага 17-гадовага піяніста Аляксандра Мельніка, студэнта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі габаіста Юрыя Лікіна, лаўрэата еўрапейскага конкурсу маладых музыкантаў вучня ССМШ пры БДК Міказла Самсонава. Для аматараў духавых інструментаў будуць гучаць славутая труба Сярожы Накапетава і кларнет Жэні Пятрова, ансамбль флейтыстаў пад кіраўніцтвам Н. Аўраменкі. Мяркуецца, што пасля заканчэння сваіх гастроляў у ФРГ прыедзе на канцэрт 17-гадовая скрыпачка Рэпсіне Айрапецянц. Яе выступленне і выступленне скрыпачоў Алега Рылаткі і Паўла Мінева мае быць сюрпрызам для знаўцаў мастацтва.

Сустрэчы з юнымі выканаўцамі плануюцца і на наступны дзень — з гэтнімі ж дзецьмі і падлеткамі, якія крочаць у свет музыкі.

Н. КАШТАНАВА,
студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна

## *Выбарчы клуб «ЛіМа»*

**Завяршаецца першы этап выбарчай кампаніі — вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР і мясцовых Саветаў. Ужо цяпер відавочна, што колькасць прэтэндэнтаў значна перавышае колькасць дэпутацкіх мандатаў, асабліва па выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі. Сярод тых, каму выбаршчыкі ўжо аказалі свой давер, — нямала прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі.**

**Кандыдатамі ў народныя дэпутаты БССР названы, у прыватнасці, старшыня рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы Ніл ГІЛЕВІЧ, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір ЛІПСКІ, пісьменнікі Яўген БУДЗІНАС, Барыс САЧАНКА, Васіль ЯКАВЕНКА, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Советская Белоруссия» Іосіф СЯРЭДЗІЧ, рэктар Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Васіль ШАРАНГОВІЧ, дацэнт БДУ імя У. І. Леніна Генадзь ГРУШАВЫ, дырэктар інстытута радыябіялогіі АН БССР Яўген КАНАПЛЯ, дацэнт Мінскага інстытута культуры Ала САБАЛЕНКА, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі АН БССР Юрый ХАДЫКА, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР Зянон ПАЗНЯК выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў Вінцук ВЯЧОРКА, Сяргей МІХНОЎ і іншыя.**

**На пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся 17 студзеня, права выставіць сваю кандыдатуру ад СП БССР для барацьбы за мандат народнага дэпутата рэспублікі атрымаў галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

**На канферэнцыі прадстаўнікоў працоўных калектываў выдавецтва «Полымя» кандыдатам у народныя дэпутаты БССР названы галоўны рэдактар часопіса «Крыніца» Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

**Многія з гэтых імёнаў, дарэчы, называліся чытачамі «ЛіМа» ў іх адказах на анкету «Выбарчага клуба» штотыднёвіка.**

**Сёння пад гэтай рубрыкай мы друкуем матэрыялы, у якіх расказваецца аб ходзе передвыбарчай барацьбы ў так званай «глыбінцы».**

# ТАК СПАКАЙНЕЙ... ДЛЯ КАГО?

НЕЯК ТАК АТРЫМАЛАСЯ, што ў гарачцы спрэчак на XII сесіі Вярхоўнага Савета нашы прагрэсісты (вымаўляю гэтае слова без усялякай іроніі) не заўважылі, як іх апанентам удалося, не сустрэўшы пры гэтым прыкметнага процідзеяння, пакінуць у законе аб выбарах пункт аб праваменасці ўнясення ў выбарчы бюлетэнь любой колькасці кандыдатаў у дэпутаты. Гэткую міну запаволенага дзеяння. Любой — значыць і адной. Так што зноў мы пастаўлены перад рэальнасцю выбараў без выбару. Як некалі. Але ў той, сумнай памяці час, не тлумілі людзям галаву разважанні аб дэмакратыі. Усё ўсім тады было гранічна зразумела — ніякіх выбараў няма, ёсць толькі галасаванне. Нікога не цікавіла — за каго, бо ніхто і ні ў што не верыў. Але ж зараз мы пачалі верыць!..

Чую сярдзіты вокрык: «Усё гэта эмоцыі, ніхто не забараняе людзям прапаноўваць на выбарчых сходах некалькі прэтэндэнтаў у кандыдаты». «Не забараняе» — гэта святая праўда. Але ёсць тут адна «маленькая» хітрасць. Згодна з новым выбарчым законам, сход можа выбраць толькі аднаго кандыдата.

«Дэмакратычнасць» такога парадку асабліва яскрава праяўляецца ў час вылучэння кандыдатаў у народныя дэпутаты мясцовых Саветаў.

Днямі мне давялося пабыць у Калодзішчанскім сельскім Савеце Мінскага раёна. Вось якая «выбарчая» карціна вымалёўвалася там на дзень майго прыезду. З 30 акруг па выбарах дэпутатаў сельскага Савета ў 15 ужо былі праведзены сходы, на якіх вылучылі ўсяго шаснаццаць кандыдатаў. На тэрыторыі гэтага сельсавета размешчаны яшчэ і сем акруг па выбарах у раённы і дзве па выбарах у абласны Савет народных дэпутатаў. На пяці выбарчых сходах па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты раённага Савета было зарэгістравана пяць чалавек, а ў абласны, на двух сходах — два кандыдаты. Адным словам, адзін чалавек на адзін мандат.

**Мне даводзілася чуць гэткія снабісцкія заўвагі: «Эт, сельсавет, райсавет, — якая розніца, як і каго туды выберуць, палітыку там не робяць...» Ой, робяць. Па маім перакананні, вельмі папулярны зараз перабудовачны лозунг «Уся ўлада Саветам» павінен набыць свой першасны сэнс перш за ўсё ў вёсцы, у так званай глыбінцы, бо менавіта вясковы жыхар у нас істота ў сацыяльным плане самая безабаронная. Паглядзіце, колькі іх, вёсак, дзе няма ні крамы, ні медпункта, ні лазні, дзе адзін калодзеж на ўсё селішча, дзе восенню па вуліцы ні прайсці, ні праехаць, дзе... Каму паскардзішся тут, у каго папытаеш дапамогі? У дэпутата Вярхоўнага Савета? Дык жа да яго далёка і, потым, правільна цяпер пішуць, не па-гаспадарску абцяжарваць парламентарыя празаічным клопатам аб крамах і лазнях, ён павінен у вярхоўным органе ўлады займацца глабальнымі пытаннямі, хоць бы той жа заканатворчасцю. Таму звяртаецца вясковец, у першую чаргу, да сваёй мясцовай улады. Чым жа яна сёння жыве, як мацуецца — у пошуках адказу на гэтыя няпростыя пытанні журналісцкая сцежка і прывяла мяне ў Калодзішчы, цэнтр сельскага Савета, на тэрыторыі якога жыве больш як дванаццаць тысяч чалавек.**

«Па колькасці насельніцтва мы ці не першыя ў вобласці», — гаворыць старшыня сельскага Савета Уладзімір Іванавіч Зенчык. Крыху падумаўшы, з усмешкай пытаецца: «Ведаеце, як нас называюць? «Спальным вагонам» Мінска, — відаць, маючы на ўвазе, што праз Калодзішчы прабягае чыгунка Мінск — Орша. — З васьмі тысяч насельнікаў саміх Калодзішчаў, — працягвае Уладзімір Іванавіч, — ці не палова раніцой ад'язджае на працу ў сталіцу, а вечарам прыязджае дахаты на начоўку».

Старшыня скардзіцца на слабасільнасць сельскага Савета, гаворыць, што рэальная ўлада яго чыста ўяўная. Кажу Зенчыку пра маючае адбыцца прыняцце закона аб мясцовым самакіраванні. Ён скептычна махае рукой: «Пры нашым гадавым бюджэце ў 90 тысяч рублёў ніякі закон не дапаможа, калі ён не будзе эканамічна падмацаваны».

Багатых «спонсараў» на тэрыторыі Калодзішчанскага сельскага Савета няма і бюджэт свой ён збірае па рублях з падаходнага падатку, зямельнай рэнты і некаторых іншых крыніц. А між тым на балансе, гэта значыць, на поўным утрыманні сельскага Савета дзве пачатковыя школы, тры бібліятэкі, сельскі Дом культуры, не кажучы ўжо пра камунальную гаспадарку, якая штодня даецца старшыні ў знакі.

Уладзімір Іванавіч зайздросціць старшыням сельсаветаў, на тэрыторыі якіх знаходзяцца моцныя гаспадаркі. Маўляў, пры жаданні старшыня багатага калгаса можа дапамагчы сельскаму Савету і грашыма, і будаўнічымі матэрыяламі, працоўнай сілай. Але ж я асабіста неадночы быў сведкам таго, як зняважліва размаўляюць у калгаснай канторы са старшынёй мясцовага Савета, які прыйшоў нешта прасіць, як прыніжана сядзіць ён на краёчку крэсла, ліслівa пазіраючы ў твар кіраўніку гаспадаркі — дасць ці не дасць?

Так, улада з адной пячаткай... Праўда, апошнім часам старшыням сельскіх Саветаў падвоілі зарплату, і цяпер той жа Уладзімір Іванавіч атрымлівае амаль прафесарскі аклад — 430 рублёў у месяц. Кажуць, што зроблена гэтае павышэнне, каб прывабіць людзей да савецкай (і партыйнай, як мы ведаем) работы...

Паскардзіўся мне старшыня на недэмакратычнасць многіх нашых законаў. Напрыклад, прыехаў чалавек на тэрыторыю сельскага Савета, каб купіць тут дом. Згодна з грамадскім заканадаўствам, ён на гэта мае права. А зямельнае заканадаўства рабіць гэта забараняе, бо ў чалавека няма мясцовай прапіскі. Але ж прапіскі не будзе, пакуль не будзе жылля, а жыллё прыдбаць немагчыма, пакуль ён не прапішацца. Вось такое зачараванае кола.

Слухаю яго і думаю, што ва ўсім цывілізаваным свеце парадак гэты кваліфікаваўся б як парушэнне элементарных правоў чалавека. У нас правы тыя толькі на паперы...

ЦІ НЕ НА ГЭТАЙ глебе і выспявае недавер людзей да сваёй роднай улады? Думалася мне пра гэта і на сходзе жыхароў Шырокскай выбарчай акругі № 20, куды мы прыехалі з Уладзімірам Іванавічам Зенчыкам і старшынёй сельскай выбарчай камісіі Сяргеем Іванавічам Дзешуком. Сабралася ў клубе «Аграпромэнерга» (як паскардзіўся Зенчык, гэта мінская арганізацыя, якая сельсавету не падпарадкоўваецца хоць бы знаходзіцца на яго зямлі)

# НЕЧАКАНЫ ПАВАРОТ

ПАЕЗДКА ў Астравец, на сход па вылучэнні кандыдата ў народныя дэпутаты БССР, мела для мяне інтрыгуючы, амаль дэтэктыўны пачатак. Напярэдадні па тэлефоне прасілі прыслаць карэспандэнта «ЛіМа» на сход калектыву Астравецкага завода агульнаўжывальных вузлоў і дэталяў, ласкава прапанаваўшы прыслаць за карэспандэнтам машыну.

**Ужо ў дарозе я раптам высветліў, што чалавек за рулём аўтамабіля не мае ніякіх адносін да сходу. (Гэты чалавек прадставіўся, але называць яго прозвішча, думаю, неабавязкова). Зрэшты, той, хто званіў, таксама не мае да сходу непасрэднага дачынення. Праз нейкі час уладальнік машыны «супакоіў» мяне, што на сход мы ўсё роўна не паспеем! Наогул, з ягоных слоў вынікала, што сход на заводзе — не галоўная мэта. Галоўнае — выкрыць інтрыгі мясцовага апарату ў перадвыбарчай барацьбе. Сам ён як актыўны ўдзельнік гэтай барацьбы можа расказаць пра шматлікія выпадкі парушэнняў выбарчага заканадаўства ў раёне. Паступова паміж намі разгарэлася дыскусія пра дэмакратызацыю, пра журналістыку, яе ролю ў сучасным грамадстве наогул і ў перадвыбарчай кампаніі ў прыватнасці. Спынілася дыскусія толькі ля заводскіх варот. Паспелі мы, на шчасце, акурат да самага пачатку. Але дзівак-вадзіцель не рашыўся падысці нават да прахадной. Мы рассталіся, нават не развітаўшыся. Шкада.**

Як бы то ні было, я ўдзячны гэтаму чалавеку. Удзячны хоць бы за тое, што змог пераканацца на заводскім сходзе, як мяняюцца людзі, як расце ў іх пачуццё ўласнай годнасці, пачуццё сапраўднага калектывізму, жаданне нешта змяніць у гэтым жыцці...

У ВЯЛІКАЙ ЗАЛЕ панавала атмасфера прыўзнята-нервовая, як гэта звычайна бывае на шматлюдных мітынгах. Нават аб'ява, што на сходзе прысутнічае прэса, выклікала шквал апладысментаў. Зала яшчэ не раз у час сходу то ўспыхвала апладысментамі, смехам, то нядобра гула, хвалявалася. Арганізатары імкнуліся весці сход дэмакратычна і разам з тым, як мне падалося, максімальна прытрымліваліся працэдуры. Характэрна, скажам, што падліковая камісія ўскрывала скрыню пасля тайнага галасавання і падлічвала бюлетэні на вачах ва ўсіх.

Прэтэндэнтаў было два: дырэктар завода Франц Уладзіслававіч Гражуль і намеснік старшыні райвыканкома Расціслаў Арсеньевіч Герт.

Праграмныя выступленні абодвух прэтэндэнтаў былі ў нечым падобнымі. І гэта зразумела, калі ўлічваць, што праблемы, якія сёння найбольш хвалююць выбаршчыкаў, паўсюдна амаль аднолькавыя. Гэта, перш за ўсё, праблемы забеспячэння таварамі, асабліва прадуктамі харчавання, экалагічныя праблемы, праблемы сацыяльнай абароны і ўспамажэння малазабяспечаным. Дырэктар завода ў сваім выступленні прывёў лічбу: па статыстыцы мясцовыя гаспадаркі даюць 200 кілаграмаў мяса ў год на жыхара раёна. А ў магазінах мясных прадуктаў не хапае, даводзіцца купляць іх па кааператыўных цэнах. Выйсце са становішча, на думку прэтэндэнта — у пераходзе раёна на большую гаспадарчую самастойнасць, на развіццё прыватнага сектару на сяле. Наогул праграма дырэктара аказалася досыць доўгай. У яго выступленні называліся лічбы: колькі пабудавана для рабочых жылля, колькі будуецца; закраналіся пытанні медыцынскага абслугоўвання і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі, пашырэння бытавых паслуг і павелічэння адпачынку па догляду за дзецьмі. Гаварылася і пра вытворчыя праблемы прадпрыемства. А яны ў астравецкага завода няпростыя, бо завод — філіял аднаго з вільнюскіх прадпрыемстваў, і перспектывы ў працоўнага калектыву ва ўмовах пераходу суседняй рэспублікі на эканамічную самастойнасць пакуль няясныя.

**Як мне падалося, праграма гэтая не выклікала вялікай цікавасці ў рабочых. Верагодна, усё гэта яны чулі, і неаднойчы, раней. Прынамсі, пытанні, якія задавалі дырэктару, тычыліся часцей за ўсё рэчаў дробязных: чаму не аказалі грашовую дапамогу, чаму доўга трэба чакаць чаргі ў садзіку, чаму не працуе вентыляцыя ў цэху? У нейкі момант сход стаў нагадваць звычайную вытворчую нараду. На вялікі жаль (але гэта ўжо мой суб'ектыўны погляд), прэтэндэнт не змог пераадолець нейкую дыстанцыю адчужанасці паміж сабой і сваімі падначаленымі. Яго адказы нярэдка гучалі занадта суха, у іх адчуваліся начальніцкія ноткі, іншы раз — раздражненне.**

Выступленне намесніка старшыні райвыканкома (на правах госця ён выступіў першым) было куды больш кароткім. У ім толькі тэзісна абазначаліся ўсе тыя праблемы і задачы, пра якія сказаў потым і сапернік. Прэтэндэнт «ад апарату» не абяцаў ніякіх цудаў ці лёгкіх шляхоў у вырашэнні шматлікіх праблем астраўчан. Аднак нармальнае забеспячэнне людзей прадуктамі па дзяржаўных цэнах, сцвярджаў ён, задача вырашальная, таксама як і адкрыццё, скажам, доўгачаканай сталовай на заводзе. Упэўненасць, з якой прэтэндэнт адказваў на пытанне, ці зможа ён у свае амаль шасцьдзесят год супрацьстаяць бюракратыі розных рангаў, выклікала сімпатыю. (Дарэчы, многім запомніліся яго крытычныя выступленні на раённай партканферэнцыі і ў «Гродненской правде»). Імпанавала і тое, што прэтэндэнт не ўхіляўся ад самых занозістых і нават непрыемных пытанняў, якія закраналі, напрыклад, яго гонар і гонар яго блізкіх. Заўважу, што падобныя пытанні задавалі і дырэктару, так што ўмовы ў іх былі аднолькавыя. Гучалі, праўда, і «нязручныя» пытанні прынцыповага плана — скажам, як ставяцца прэтэндэнты да 6-га артыкула Канстытуцыі СССР, да шматпартыйнасці, да нефармальных рухаў. На першае пытанне абодва аратары

# АБМЕРКАВАННЕ ПРАЕКТА

**рэспубліканскага Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» было на парадку дня адкрытага партыйнага сходу пісьменнікаў рэспублікі, які адбыўся ў мінулую пятніцу.**

Гаворку пачаў член рабочай групы камісіі Вярхоўнага Савета БССР па падрыхтоўцы праекта Закона Беларускай ССР аб мовах **Б. Сачанка.** Ён расказаў, як вялася гэтая карпатлівая работа, як штосьці ўдакладнялася, а штосьці адмаўлялася, каб урэшце паявіўся варыянт праекта, вынесены на абмеркаванне. Расказаў Б. Сачанка і аб водгуках на праект закона, якія паступілі ў Вярхоўны Савет рэспублікі, аб уважлівым стаўленні да іх членаў рабочай групы, выказаў здзіўленне, што ў камісію не паступіла ніводнага водгуку ці прапановы ад пісьменнікаў.

Потым слова ў гаворцы бралі **А. Вярцінскі** (ён паставіў пытанне аб тым, у якой меры камісія ўлічвала думкі ўдзельнікаў гаворкі аб роднай мове на старонках «ЛіМа», якую вядуць навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы культуры і, вядома, шматлікія чытачы), **С. Грахоўскі** (ён нагадаў аб 20-х гадах, калі штодня па-беларуску гаварыла ўсё савецкае і партыйнае начальства, у тым ліку і сакратары ЦК КПБ, **Янка Брыль** (нагадаў аб захадах, якія прымаліся з боку пісьменнікаў раней, каб беларуская мова ў рэспубліцы адчувала сябе гаспадыняй: ліст у ЦК КПБ Якуба Коласа, шматлікія выступленні ў абарону роднай мовы Н. Гілевіча, У. Дамашэвіча, сустрэча групы пісьменнікаў з партыйным кіраўніцтвам у 1966 годзе, пісьмо у ЦК КПБ вядомых пісьменнікаў на чале з І. Мележам у 1968 годзе і г. д.), **Г. Далідовіч** (падзяліўся сваімі думкамі аб моўнай сітуацыі ў рэспубліцы, выказаў некаторыя канкрэтныя заўвагі і прапановы па ажыццяўленні будучага закона, закрануў пытанне аб так званых беларускіх паляках, аб чым пісаў напярэдадні ў «Звяздзе»), **В. Жуковіч** (ён падтрымаў думку многіх беларусаў, што тэрміны ўвядзення паасобных артыкулаў закона ў жыццё трэба скараціць), **Г. Марчук** (выказаўся за тое, каб беларуская мова пачыналася з дзіцячага садка, каб «Сельская газета» ўрэшце загаварыла з чытачом на роднай мове), **А. Жалязоўскі** (прапанаваў аднадушна падтрымаць праект і паслаць адпаведны дакумент у Вярхоўны Савет БССР); **Я. Саламевіч** (зазначыў, што асобныя тэрміны беларусізацыі рас-

больш як 60 чалавек. «Тры кворумы для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты»,— з задавальненнем зазначыў С. Дзяшук. Высокі, пажылы, але падцягнуты, з ваеннай выпраўкай Сяргей Іванавіч трымаў сябе ўпэўнена і строга. Адкрываючы сход, папярэдзіў прысутных, што трэба ім трымаць сябе дысцыплінавана, гаварыць па чарзе, не перабіваць адзін аднаго, бо дэмакратыя — гэта перш за ўсё парадак.

З С. Дзешуком, дарэчы, у мяне перад сходам адбылася невялікая сутычка. Даведаўшыся ў час нашага знаёмства, што я з «Літаратуры і мастацтва», Сяргей Іванавіч незадаволеным тонам сказаў, што яму гэтае выданне не падабаецца. Я пацікавіўся: чаму? «Усякую лухту друкуеце, — тонам, што не церпіць пярэчання, адказаў ён. — Хоць бы тыя ж «Цынкавыя салдацікі». «Мо «Цынкавыя хлопчыкі»?» — перапытаў я. «Во, во, хлопчыкі. Гэта паклёп на нашу інтэрнацыянальную дапамогу афганскай рэвалюцыі. Я вам гэта кажу як былы вайсковец».

Хацеў было ўступіць з ім у спрэчку, але зразумеў: чалавека гэтага не пераканаеш.

Ну, а сход? Сход, скажу па шчырасці, мне спадабаўся, хоць праходзіў ён не ў рамках, вызначаных Сяргеем Іванавічам. Прысутныя і перабівалі адзін аднаго, і шум стаяў, і рэплікі з усіх бакоў чуліся, і па адрасе старшыні сельсавета людзі адпускалі не вельмі парламенцкія выразы. І было гэта не вынікам «разгулу дэмакратыі», а тым, што ў людзей накіпела на душы і маўчаць яны больш не жадаюць.

Не такім ужо ўтульным аказаўся «спальны вагон», як гэта мне даводзіў У. Зенчык. Не ведаю, як працуецца ў Мінску каладзішчанцам, сухарукаўцам (у сходзе ўдзельнічалі пераважна жыхары вёскі Сухарукія), але дома ім жывецца блага. Вялікія перабоі з электрычнасцю (і гэта за 12 кіламетраў ад Мінска!), вуліцы патанаюць у гразі, людзі вымушаны спажываць непрыгодную для піцця ваду, лазня працуе толькі для начальства, базы, якія размясцілі тут сталічныя прадпрыемствы, забруджваюць сваімі адыходамі навакольную прыроду і г. д. і г. д. Рэфрэнам на сходзе гучала пытанне: «Ёсць у нас Савецкая ўлада ці няма?»

Сход выбраў кандыдата ў дэпутаты сельскага Савета. «Чаму толькі аднаго?» — пыталіся прысутныя. «Так вызначана ў выбарчым законе, — тлумачыў Сяргей Іванавіч, — сход выбірае толькі аднаго кандыдата».

Пасля, калі вярталіся ў сельскі Савет, у машыне ўзнікла размова менавіта аб гэтым пункце закона. «Сход жыхароў правамоцны выбіраць кандыдата пры кворуме не менш дваццаці чалавек. Тут жа сабралася больш як шэсцьдзесят. Дык мо трэба было абраць трох?» — раздумліва разважаў У. Зенчык. «Хто яго ведае, Уладзімір Іванавіч, — адказаў С. Дзяшук, — у законе дакладна сказана — адзін сход выбірае аднаго кандыдата».

У МІНСКУ ўжо я пазваніў у Мінскую раённую выбарчую камісію і, абмаляваўшы сітуацыю, што склалася на сходзе ў Сухаруках, спытаў, ці можна было там абраць трох кандыдатаў? «Не, — уздыхнулі на тым канцы провада, — сход усё-такі быў адзін, значыць і кандыдата павінны былі вылучыць аднаго». Падумалася: а ці не крыецца ва ўсім гэтым сярмяжная ісціна, якой дамагаецца закон — чым менш кандыдатаў у дэпутаты, тым спакайней для ўлады? Помніце сентэнцыю «вялікага і мудрага»? Ёсць чалавек — ёсць праблема, няма чалавека — няма праблемы...

**Міхась ЗАМСКІ.**

палічылі за лепшае адказаць агульнымі словамі, абмежаваўшыся вядомымі фармуліроўкамі. На пытанне ж аб адносінах да БНФ Герт адказаў, што ён — за супрацоўніцтва ўсіх рухаў, якія садзейнічаюць перабудове, супраць штучнага дзялення людзей на «сваіх» і «нефармалаў». Гэтае выказванне выклікала шумную, хоць і неадназначную рэакцыю залы.

Я ЎЖО ГАВАРЫЎ пра тое, як чуйна рэагавала зала на ўсе перыпетыі барацьбы паміж прэтэндэнтамі. Але гэта была не рэакцыя гледачоў. Удзельнікі сходу — рабочыя, інжынеры, тэхнолагі і г. д., адным словам, працоўны калектыў — вось хто быў галоўнай дзеючай асобай.

**Канчаткова ў гэтым я пераканаўся пасля выступленняў сакратара парткома завода В. Ламекі і рабочага У. Хлябцова. Яны гаварылі пра тое, якім цяжкім аказаўся шлях да вылучэння кандыдата, як на сходах у розных падраздзяленнях прадпрыемства навязвалася зверху кандыдатура старшыні Гродзенскага аблвыканкома Д. Арцымені, як літаральна за дзень да сходу працоўнага калектыву з завадчанамі чарговы раз пажадалі сустрэцца прадстаўнікі кіраўніцтва раёна і зноў пачалі агітаваць за тую ж кандыдатуру. Відаць, не лішнім будзе тут сказаць, што старшыня аблвыканкома ўжо да гэтага быў вылучаны некалькімі калектывамі ў раёне (дарэчы, ён і сёння з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі ад Астравецкай выбарчай акругі). Гаворка тут не пра самога кандыдата. Гаворка — пра метады вылучэння, якія, *здавалася б, даўно засталіся ў мінулым*. Павінны былі б застацца...**

**Мне расказвалі, напрыклад, што вылучэнне высокапастаўленага кандыдата ў чатырох гаспадарках адбылося ў адзін і той жа дзень і ледзь не ў адзін і той жа час. А на сходзе ў калгасе імя Чапаева (вёска Варняны), удзельнікі якога напісалі скаргу ў Цэнтральную выбарчую камісію, не было нават падліковай камісіі і ўдзельнікаў сходу ніхто дакладна не лічыў. Функцыі камісіі ўзяў на сябе сам старшыня калгаса, які хадзіў паміж радоў і пытаўся — хто супраць. Не дзіўна, што такіх знайшлося вельмі мала.**

Магу засведчыць: на сходзе працоўнага калектыву завода ніхто не перашкаджаў яго ўдзельнікам уносіць прапановы. *Больш таго, прэзідыум* заклікаў называць любыя кандыдатуры, разам з тымі, што ўжо былі вызначаны раней. І ўсё ж у бюлетэні былі ўнесены толькі два прозвішчы. А вынікі галасавання такія: за Герта 270 галасоў з 318, за Гражуля — 48.

Ці азначае гэта, што цяпер у Астравецкай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 264 будзе як мінімум два кандыдаты ў народныя дэпутаты БССР? Паглядзім. *У перадвыбарчай* барацьбе можа быць яшчэ шмат нечаканых паваротаў.

**Віталь ТАРАС.**

Астравец—Мінск.

цягнуты, што людзі розных рэспублік самі вызначаць мову сваіх зносін, што неабходна зрабіць так, каб падручнік, як і раней, можна было купіць), **Н. Пашкевіч** (ён усумніўся, што закон, які прыме Вярхоўны Савет БССР, будзе выкананы), а таксама **М. Кругавых, В. Адамчык, С. Законнікаў.**

Апошнім на сходзе выступіў сакратар Мінскага гаркома партыі **П. Краўчанка**, які падкрэсліў, што ёсць толькі адна ўмова выратавання роднай мовы — наданне ёй статуса дзяржаўнай.

Удзельнікі сходу прынялі пастанову, у якой выказалі ўпэўненасць, што Закон «Аб мовах у Беларускай ССР» будзе прыняты.

●

**А на завяршэнне вернемся да пачатку сходу, да нечаканай падзеі, якая адбылася не ў межах парадку дня. На самым пачатку работы сходу слова папрасіў К. ТАРАСАЎ і зачытаў сваю заяву, сутнасць якой — вось у гэтых, заключных радках: «Лічу непрымальным для сябе заставацца падуладным па партыйнай лініі волі людзей, якія старанна захоўваюць развенчаную гісторыяй, нежыццяздольную партакратычную сістэму ў рэспубліцы. З гэтай прычыны прашу лічыць мяне выбыўшым з КПБ».**

**Наш кар.**

МЫ ўжо стаміліся... Стаміліся ад аглушальнага гучання фанфар, якія трубілі пра нашы мройныя дасягненні і ілюзорныя перамогі, ад бадзёрых заклікаў спяшацца наперад да неакрэсленых туманных вышынь, якія ўсё аддаляліся і падпускаць нас да сябе не жадалі. Як у тым анекдоце: чым мы да іх бліжэй, тым яны ад нас далей. Мы са страхам адчуваем, што чалавек, які задыхаецца ад праблем на роднай зямлі, чарсцвее, чэзне душою. Мы хочам азірнуцца назад, дзе, ведаем, наша мінулае, душа продкаў і наша сумленне,— тое, за што імкненне і здольнасць яго памятаць сваіх продкаў, — гаварыў на з'ездзе археолаг М. Чарняўскі. — Гэта форма гістарычнай памяці. Чалавек без памяці — паталогія, ён ператвараецца ў манкурта. Хворым з'яўляецца і народ, які страціў або пазбаўлены гістарычнай памяці. Народ без яе згіне як этна-культурны аб'ект. Ёсць і больш вытанчаныя спосабы ператварэння людзей у манкуртаў — гэта фальсіфікацыя іх мінулага, унушэнне, што яны ніколі не былі самастойна мыслячымі людзьмі. Сапраўдная гістарычная памяць і камандна-адміністрацыйная сістэма, тэорыяй і практыкай якой з'яўляецца сталінізм, несумяшчальныя. Бюракратычная сістэма уніфікуе чалавека, нам з вамі неабходна ачысціцца ад маны і фальшу...

# ЖЫВІ, АДРОДЖАНАЯ ПАМЯЦЬ!

**З устаноўчага з'езда Беларускага краязнаўчага таварыства**

яшчэ можна зачапіцца. Там засталася наша гістарычная памяць. Але—дзе яна? Якія раз'юшаныя вятры разагналі яе і якія чорныя сілы вытравілі з нашых душ?

Пра гэта і разважалі дэлегаты рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі краязнаўцаў «Праблемы беларускага краязнаўства», якая тры дні праходзіла ў мінскім Доме літаратара. Удзельнікі канферэнцыі разумелі, што стварэнне краязнаўчага таварыства — наш чалавечы абавязак у імя памяці аб тых, хто за сваю навуковую і чалавечую прынцыповасць быў расстраляны ці загінуў у турмах і ссылках. Але аказалася, што падобны форум не мае юрыдычнага права для ўтварэння новага таварыства. Таму ўдзельнікі яго аднадушна абвясцілі канферэнцыю з'ездам, які і ўтварыў Беларускае краязнаўчае таварыства.

— Гісторыя беларускага краязнаўства сапраўды драматычная, — падкрэсліў у сваім дакладзе пісьменнік, кандыдат гістарычных навук Г. Каханоўскі. — Сёння краязнаўства існуе інтуітыўна, усур'ёз ім ніхто не займаецца. Пасля вайны яно пачало адраджацца, але гіпертрафіравана, у духу культу асобы і пад жорсткім кантролем усёй бюракратычна-каманднай махіны...

Адроджаная арганізацыя павінна дапамагчы ў рабоце таварыству аховы помнікаў, якое, не сакрэт, не выконвае тых надзей, якія на яго ўскладаліся. Правільныя словы і рэдкая чалавечая глухата — вось што сёння характарызуе работу гэтай арганізацыі. Голыя заклікі да вялікай любві да ўсяго, што створана рукамі чалавека, не падмацаваныя канкрэтнымі справамі тых, хто да гэтага заклікае, у атмасферы бездухоўнасці і раўнадушша прынялі самыя пачварныя формы. Гальшанскі замак XVII стагоддзя, памяць пра Паўла Сапегу і Соф'ю Гальшанскую, заснавальніцу роду Ягелонаў, сыны якой былі каралямі Польшчы, Венгрыі і Чэхіі, задыхаецца ад гноевых *сцёкаў мясцовай фермы*... Крэўскі замак, пабудаваны Гедымінам у XIV стагоддзі, звязаны з імёнамі Кейстута і А. Курбскага, сёння развальваецца... Жамчужына XV—XVI стагоддзяў— царква ў Сынкавічах, што ў Зэльвенскім раёне, суседнічае са смуродлівым свінарнікам... Калі мала пераліку — можна называць дзесяткі адрасоў, пры ўпамінанні якіх павінна здрыгануцца ад сораму сэрца кожнага сумленнага жыхара Беларусі.

— Сярод шэрагу адрозненняў чалавека ад жывёлы ёсць

Мы гаворым пра манкурцтва і няўменне ахоўваць помнікі ў мінулым часе, быццам усё сёння стала на свае месцы. Можа, цяпер па-новаму пагляделі на гэту актуальную праблему? Вось адзін факт. Год назад, у адпаведнасці з прынятым рашэннем ЮНЕСКА, з 1 студзеня 1989 года СССР, УССР і БССР сталі ўдзельнікамі канвенцыі «Аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны». У ЮНЕСКА складаўся спіс сусветнай спадчыны — культурных і прыродных каштоўнасцей, якія маюць агульначалавечае значэнне, і ў яго папрасілі ўнесці свае нацыянальныя помнікі і трох новых членаў гэтай канвенцыі. Украіна ўключыла туды Сафійскі сабор XI—XVIII стагоддзяў у Кіеве. Грузія — храм Джвары VII стагоддзя ў Мцхеце, Літва — Вільнюскі Верхні замак XIV — XVI, Узбекістан — Маўзалей Гур-Эмір, усыпальніцу Цімурыдаў XV стагоддзя ў Самаркандзе. Ад Беларусі прапанавалі ўключыць у спіс «Мемарыяльны комплекс «Хатынь» — больш дагледжанага і цікавага сваёй гісторыяй помніка тут не знайшлі.

Пра адносіны афіцыйных устаноў да аховы помнікаў гаворыць і такі факт. Год назад у сувязі са скарачэннем упраўленняў музеяў і аховы помнікаў у нацыянальных міністэрствах культуры Мінкультуры СССР вырашыла стварыць галоўнае ўпраўленне па ахове помнікаў і рэстаўрацыі, прапанаваўшы падобныя падраздзелы арганізаваць у саюзных рэспубліках. Усе рэспублікі выказаліся за стварэнне падобнага ўпраўлення, толькі ў Беларусі аднесліся да гэтай прапановы адмоўна ў сувязі... з фінансавай абмежаванасцю і скарачэннем апарату. Нават у *Маскве не чакалі такога «мудрамыслення»*.

Уражанне такое, быццам работа па захаванні помнікаў нашай гісторыі некага зусім не цікавіць, калі не сказаць больш. Не дзіва, што ў выступленнях на з'ездзе некаторых краязнаўцаў прагучаў падзел на «Яны» і «Мы». «Яны» — гэта частка афіцыйных асоб, якія па сваім службовым становішчы павінны займацца краязнаўчай работай, падтрымліваць энтузіястаў і аматараў, але, на жаль, такога не робяць. *Праходзіў з'езд краязнаўцаў* рэспублікі, які адрадзіў краязнаўчае таварыства, а вось ніхто з тых, хто адказвае за ахову помнікаў, не сказаў з трыбуны свайго слова.

На з'ездзе выступалі не толькі нашы аўтарытэтныя гісторыкі і археолагі, якія ўсё жыццё аддалі справе адраджэння гістарычнай памяці народа. Болем за свой край былі прасякнуты выступленні настаўніка Гудзевіцкай СШ Мастоўскага раёна А. Белакоза, навуковага супрацоўніка Браслаўскага краязнаўчага музея К. Шыдлоўскага, супрацоўніка ваенна-гістарычнага музея імя Суворава з Кобрына М. Цубы.

А. Мальдзіс зазначыў, што правядзенне з'езда — гэта падзея нашага духоўнага адраджэння, вяртанне да жыватворных традыцый 20-ых гадоў.

— Сапраўдны краязнавец павінен найперш быць гісторыкам, — сказаў вучоны. — Добра ведаць мінулае, ведаць археалогію, геральдыку, генеалогію, нумізматыку. І ўсе гэтыя шматгранныя веды сінтэзуюцца, факусіруюцца на маленькую частку нашай вялікай краіны. Вось чаму краязнаўства — асобная, гуманітарная навука, *такой яна лічылася* ў гады Інбелкульта, калі існавала Цэнтральнае бюро краязнаўства.

А. Мальдзіс, ды і не толькі ён, падкрэслівалі неабходнасць адраджэння часопіса «Наш край», які выходзіў у 1925—1930 гады. Часопіс з'яўляўся выдатным падручнікам для нашых краязнаўцаў. Я спецыяльна пабываў у бібліятэцы і заказаў пажоўклыя падшыўкі часопіса, каб бліжэй пазнаёміцца з гэтым выданнем. У першых трох нумарах яго (кастрычнік—снежань 1925 г.) былі надрукаваны артыкулы «Фрэскі полацкага Барысаглебскага манастыра» М. Шчакаціхіна, «Аграрны рух на Міншчыне ў 1905—1906 гг.» А. Сянкевіча, «Шэсць экскурсій па Магілёву» Я. Трoські. Пад рубрыкай «Анкеты, праграмы, інструкцыі» змяшчаліся метадычныя дапаможнікі «Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам», «Праграма-інструкцыя для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці», «Інструкцыя для збірання народнага слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове», «Праграма збірання вуснай народнай творчасці» і г. д. Будзем верыць у тое, што Беларускае краязнаўчае таварыства апраўдае нашы надзеі, і няхай наша вечная любоў да роднага краю асвеціць яго няпросты лёс. З'езд прыняў Статут, у якім вызначана, што галоўнай мэтай краязнаўства з'яўляецца вывучэнне населеных пунктаў і асобных рэгіёнаў Беларусі. Падкрэслена неабходнасць весці работу ў архівах і бібліятэках, збіраць дакументальны матэрыял, арганізоўваць музеі і адшукваць помнікі нашай даўніны, пісаць гісторыю вёсак і гарадоў. Кіруючымі органамі таварыства з'яўляюцца з'езд, які склікаецца не радзей аднаго разу ў два гады, рада і сакратарыят, які працуе пастаянна. З'езд абраў раду БКТ у складзе больш чым 80 чалавек і рэвізійную камісію. Старшынёй рады абраны Г. Каханоўскі, яго намеснікамі М. Біч, Л. Казлоў, З. Санько і В. Чамярыцкі.

**Вячаслаў ЛАПЦІК.**

## Крытыка, бібліяграфія

Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ

# Чаго не будзе ў слоўніку...

**У канцы мінулага года адбылося абмеркаванне праекта слоўніка будучай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (гл. «ЛіМ» за 10.11.1989 г.). Валянцін Грыцкевіч, наш сталы аўтар з Ленінграда, не змог прыняць удзел у абмеркаванні, але свае заўвагі даслаў на адрас энцыклапедыі і нашага штотыднёвіка. Улічваючы актуальнасць і важнасць закранутых ім праблем, рэдакцыя вырашыла змясціць ягоныя нататкі на старонках «ЛіМа». З-за абмежаванасці газетнай плошчы матэрыял друкуецца са скарачэннямі.**

Вядома, што чалавек толькі таму і з'яўляецца чалавекам, што мае сваю гісторыю. Без гісторыі ён не мог бы зразумець ніякіх падзей, што з мінулага вядуць да будучыні. Таму з надзеяй на будучае, з чаканнем убачыць, з якіх пазіцый беларусы возьмуцца за асэнсаванне сваёй гісторыі, я ўзяў у рукі праект слоўніка «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», надрукаваны на ратапрынце і разасланы для азнаямлення.

Мы ўсе — і гісторыкі Беларусі, і кожны, хто, не будучы спецыялістам, цікавіцца мінулым свайго краю, — нецярпліва чакаем выхаду энцыклапедыі. Асабліва пасля таго, як выдавецтва «БелСЭ» выпусціла ў свет прыгожа аздобленыя «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына» і «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.», якія прадэманстравалі прафесійную падрыхтаванасць выдавецкіх супрацоўнікаў. Складальнікі праекта слоўніка «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (у далейшым ПС ЭГБ), як можна бачыць, сумленна і плённа папрацавалі над ім, улічыўшы вопыт «Советской исторической энциклопедии» (М., 1961—1976) і «Радянськой Энциклопедії історії України» (К., 1969—1972).

Але невялікай была б карысць ад маіх думак, калі б я як рэцэнзент абмежаваўся пахваламі ў адрас складальнікаў і не падзяліўся сваім непакоем аб інфармацыйным фондзе ПС ЭГБ. Бо праект слоўніка па сутнасці адлюстроўвае крызіснае становішча гістарычнай навукі БССР, пра якое шмат разоў пісалася ў друку.

На вялікі жаль, складальнікі праекта не палічылі патрэбным звярнуць увагу на тыя факты і з'явы ў беларускай гістарычнай навуцы, якія слушна непакояць частку беларускіх гісторыкаў (галоўным чынам тую, якая не працуе ў гістарычных інстытутах і на вядучых кафедрах гісторыі БССР у ВНУ рэспублікі), і пісьменнікаў, што пішуць на гістарычныя тэмы.

Гэта законнае права складальнікаў ПС ЭГБ, як і супрацоўнікаў вядучых гістарычных інстытутаў і кафедр рэспублікі, — не рэагаваць на «неакадэмічны» клопат іншых. Але і ў тых, хто непакоіцца становішчам беларускай гістарычнай навукі і яе плёнам, таксама застаецца права крытыкаваць гэтае становішча.

Я ўпэўнены ў тым, што мае заўвагі павінны засяроджвацца не на нейкіх канкрэтных праліках, а на прынцыповых пытаннях методыкі складання праекта слоўніка і ягонага інфармацыйнага зместу.

На мой погляд, у праекце слоўніка тэорыя і методыка павінны ўлічвацца ў першую чаргу, а яны адсунутыя тут на апошняе месца ў раздзел «Гістарычная навука». Паспрабуй іх адшукаць!

На «Метадалогію гісторыі» адведзена 5000 знакаў і на «Методыку гістарычнага даследавання» столькі ж. Для параўнання: тыя ж 5000 знакаў даюцца на асобныя дапаможныя гістарычныя дысцыпліны— архівазнаўства, геаграфію гістарычную, палеаграфію, тапаніміку — і нават на калекцыяніраванне.

Здзіўляе адсутнасць асобных тэрмінаў з галіны методыкі гістарычнага даследавання: месца гісторыі ў сістэме навук, асаблівасцяў аб'екта і метадаў гістарычнага пазнання, суадносін гістарычнай крыніцы і гістарычнага факта, метадаў гістарычнага даследавання — гісторыка-генетычнага, гісторыка - параўнальнага, гісторыка-псіхалагічнага, гісторыка-сістэмнага і інш.

Тэрмін «Крыніцазнаўства» таксама схаваўся недзе між «Краязнаўствам» і «Крыптаграфіяй», нібыта ўсе яны маюць аднолькавую вартасць. Няўжо няўцям, што вядучым напрамкам гістарычнага даследавання проста няёмка адводзіць такое месца?

Паглядзіце на ЭЛіМБел — як многа там спецыяльных тэарэтычных артыкулаў і як мала іх тут.

Як можна ў канцы XX стагоддзя арыентавацца і арыентаваць чытача на элементарнае няведанне абавязковых для гісторыка-даследчыка тэрмінаў?

Я разумею, адкуль ідзе такая грэблівасць да тэарэтычных ведаў: ад часоў сталіншчыны і рэсталінізатарскай плыні так званага застою, калі ў мысленне гісторыкаў трывала ўвайшла догма «Кароткага курса гісторыі ВКП (б)» і якой, на жаль, кіраваліся і дасюль кіруюцца шматлікія мае калегі ў рэспубліцы.

Ну добра, чаго няма, таго няма, можа, нешта іншае будзе пакладзена ў аснову тэорыі гісторыі. У першым раздзеле ПС ЭГБ «Заснавальнікі марксізму-ленінізму», які, на думку складальнікаў, павінен адкрываць слоўнік, здзіўляе адсутнасць менавіта тых твораў Маркса, Энгельса, Леніна, дзе заснавальнікі навуковага камунізму давалі характарыстыкі канкрэтным гістарычным падзеям у Беларусі. Ці ж гэта марксісцкі падыход да твораў аўтараў, імёны якіх упамінаюцца на кожным кроку?

І яшчэ. У мяне ўзнікла сумненне, ці сочаць складальнікі раздзела «Гісторыя КПСС і КПБ» за сучаснай палемічнай літаратурай па гісторыі КПСС, за апошнімі пастановамі ЦК КПСС? Бо ў слоўніку засталіся такія тэрміны, як «Правы ўхіл у ВКП (б)», «Трацкізм», «Трацкісцка-зіноўеўскі **антыпартыйны** (падкрэслена мною. — **В. Г.) блок**» і некаторыя іншыя.

Па-мойму, дробныя выступленні рабочых і сялян Беларусі напярэдадні Кастрычніка, а канкрэтна, у 1896—1916 гг. атрымалі надта многа месца ў параўнанні з іншымі рэвалюцыйнымі выступленнямі ў краі, што адбываліся раней.

Увогуле, на XX стагоддзе адводзіцца 206 старонак ПС ЭГБ, а на гісторыю краю з IX па канец XIX ст. — 82 старонкі. Лічу, што гэта тыповая праява традыцыйнай у гістарычнай навуцы недаацэнкі тысячагадовага дакастрычніцкага перыяду гісторыі Беларусі. Ці не пара адмаўляцца ад такога нігілістычнага падыходу да мінулага, як і ад другога значнага хібу — залішняй палітызацыі гісторыі, ігнаравання розніцы паміж гістарычнай навукай і прапагандай, стварэння фантомнай ці макетнай гісторыі, г. зн. такой, якую, па словах амерыканскага пісьменніка Дж. Стэйнбека, хацелася б мець замест сапраўднай.

Залішняя палітызацыя гісторыі літаральна пранізвае праект слоўніка. Маю на ўвазе ў першую чаргу раздзелы. прысвечаныя гісторыі КПСС і КПБ, і савецкага перыяду гісторыі Беларусі, уключаючы персаналіі. Не ўпэўнены, што трэба пісаць артыкулы па 800 знакаў кожны пра ўдзельнікаў штурму Зімняга палаца. Зусім дастаткова было б агульнага артыкула з пералікам імёнаў.

Іншыя тэрміны праекта напамінаюць ламаісцкія малітоўныя млыны. У іхнія цыліндры ўкладаюцца тэксты пацераў. Сто ці пяцьсот разоў пракруціў ручку млына, лічы, што сто ці пяцьсот разоў дакранешся да боскай ісціны. Тэрміны накшталт «Агітплакат», «Агітфільм», «Адзіны палітдзень», «Развітае сацыялістычнае грамадства» і іншыя мала што даюць будучаму чытачу энцыклапедыі. Тут, як мне здаецца, заўважны ўплыў на гісторыкаў-навукоўцаў, складальнікаў гэтага раздзела з боку тых неспецыялістаў у гэтай галіне, што кіруюць імі. Падобны падыход, на мой погляд, дыскрэдытуе ідэю навуковай гісторыі Беларусі. Колькі можна цягнуць у энцыклапедыю адрэтушыраваную гісторыю? Гэтаму выданню наканавана жыць не год і не два, на яго будуць выдаткаваны немалыя сродкі!

На жаль, стваральнікі ПС ЭГБ часта ставіліся да слоўнікавага фонду як да збору абавязковых ісцін, унікаючы дыскусійных тэрмінаў. Вылучаны «Кіраўнікі антыфеадальных паўстанняў на Беларусі». Але падабраны іх імёны такім чынам, быццам у нас на Беларусі былі свае Разіны, Пугачовы, Балотнікавы. Гэта нагадвае разнарадку на паўстанні для кожнага кутка былой Расійскай імперыі. А калі ў нас не было сялянскіх войнаў, такога размаху, як у іншых краінах, дык што з таго? Ці абавязкова пнуцца, каб быць падобнымі на іншых? Увогуле, даўно ўжо М. Лужанін, раней за «акадэмічных» гісторыкаў, заўважыў, што Стахор Міткові́ч, якога напачатку дакументы пра так званае «паўстанне» ў Магілёве ў пач. XVII ст. яшчэ памінаюць, потым знікае са старонак пазнейшых дакументаў, бо, мусіць, не іграў такой ролі, каб яго згадваць. Ды і не паўстанне гэта было, а легальны пратэст, прадугледжаны законамі Рэчы Паспалітай, супраць парушэння Магдэбургскага права. А ў нас у 30-я гады, згодна схеме «Кароткага курса» гісторыкі (на чале са Шчарбаковым) зрабілі з гэтага ледзь не другую Балотнікаўшчыну. Тое ж з Дубінам, які быў, як слушна давёў Л. Абэцэдарскі, не паўстанцам, а рабаўніком.

Спынюся больш падрабязна на дэперсаналізацыі гістарычнай навукі Беларусі. Палітызаваная гісторыя карыстаецца персанажамі толькі як прыкладамі для правіл. Затое яна лічыць, што няма нічога больш беспамылковага, чым улада. Нічога больш разумнага, задушэўнага, клапатлівага, чым яна. І па тэрмінах, якія прысвечаны Савецкай уладзе на Беларусі, гэта адчуваецца.

Але ж улада — феномен даволі стракаты. У ёй ёсць і гераізм, і самаадданасць, але ёсць і турмы, і хабар, і іншыя злоўжыванні. Усё ёсць ва ўладзе. І на гэтае адмоўнае няма аніводнага намёку. Дзе ў ПС ЭГБ Курапаты? А гэтае жудаснае слова стала сімвалам ва ўсім СССР — такім жа, як, скажам, для палякаў Катынь. Ужо прыгадваюць алтайскія, уральскія, ленінградскія Курапаты... А дзе рассяляньванне беларускай вёскі? Замест яго ёсць толькі «Калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў БССР», «Дваццаціпяцітысячнікі» (на Беларусі)», «Усебеларускія з'езды калгасаў» і г. д. Дзе Чарнобыль, экалагічныя праблемы краю, кааперацыя ўвогуле (а не толькі жыллёвая і збытавая)?

І ўрэшце, дзе тэрміны «Бюракратыя», «Адміністратыўна-бюракратычная сістэма»? Дзе каты Берман, Наседкін, Дзякаў, Цанава і іншыя? Недастаткова адлюстраваныя імёны дзеячаў дарэвалюцыйнага перыяду, а таксама прадстаўнікоў Заходняй Беларусі, пра якіх мала ведаюць. Дзе згадка пра тых рэвалюцыянераў, якіх найперш рэпрэсіравалі сталінскія ўлады, а потым — пасмяротна — беларускія гісторыкі? Частку гэтых выкрасленых з гісторыі асоб у праект унеслі, але многа засталося па-за межамі. Дзе персаналіі ўдзельнікаў дробнабуржуазнай плыні рэвалюцыйнага руху, дзеячаў буржуазных партый, стваральнікаў БНР, сяброў беларускага ўрада ў Коўна, беларускіх эмігранцкіх дзеячаў за мяжой, кіраўнікоў паўстанняў супраць Савецкай улады ў грамадзянскую вайну? Хто ж перашкаджае даваць ім адпаведную ацэнку?

Польскі гісторык і публіцыст Павел Ясеніца (сапраўднае імя Лех Бейнар, дарэчы, яго таксама нельга абмінуць у ЭГБ) у свой час папярэджваў: «Кожнаму з нас (гісторыкаў. — **В. Г.**) павінна служыць цэлая палітра барваў. Можна з яе выбіраць адны тэндэнцыі, здарэнні ці постаці адорваць анёльскімі румянамі, іншыя ж ачарняць. Хто вырашыць макаць пэндзаль у колерах, згодна прадпісанню ці прынцыпам, той зробіць гэта на ўласную аўтарскую рызыку. Нельга толькі замазваць вапнай, каб увогуле нічога не было бачна, асуджаць на забыццё».

Я прынцыпова не згодны з тым, што большасць персаналій у слоўніку належаць сучаснасці. Беларусь жа развівалася не пяцьдзесят і не семдзесят гадоў! Ці толькі таму, што лягчэй адшукаць персанажы ў блізкім мінулым, трэба так перабольшваць значэнне апошніх дзесяцігоддзяў, спяваючы ім «Асанну»?

Можна было б знайсці імёны больш дзесяці рускіх генералаў родам з Беларусі толькі за XIX стагоддзе, а з іх ліку ў праект

(Працяг на стар. 6).

## Кнігапіс

А. КУДРАВЕЦ. Зменлівы след. Апавяданні. На нямецкай мове. Берлін, выдавецтва «Ауфбау», 1988.

**Яшчэ ў 1983 годзе ў берлінскім выдавецтве «Уніён» выйшла асобнай кнігай аповесць Анатоля Кудраўца «Раданіца», якая выклікала вялікую колькасць водгукаў, рэцэнзій. З'явілася і публікацыя ў канадскім часопісе «Германаславіка». Усе рэцэнзенты сыходзіліся на адным: твор прыйшоўся даспадобы нямецкаму чытачу. Выказваліся спадзяванні на наступную сустрэчу.**

**Пазалетась яна адбылася. Выдавецтва «Ауфбаум» выпусціла зборнік А. Кудраўца «Зменлівы след». У кнігу ўвайшлі апавяданні «Іванка», «На балоце скрыпелі драчы», «Цітаўкі», «Елачка» (перакладчыкам названа «Зменлівы сход»), «Па дарозе дамоў», «Другі варыянт», «Жулік», «Дзень перад святам».**

І. НАВУМЕНКА. Водгулле далёкіх вёснаў. Апавяданні, аповесці. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.

**Пра сваіх аднагодкаў, якія гадаваліся напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны і сталелі ў час барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, далучаліся да актыўнага жыцця пасля Перамогі, расказвае Іван Навуменка ў творах, якія ўвайшлі ў аднатомнік «Водгулле далёкіх вёснаў». Сярод іх — аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі», «Пераломны ўзрост», «Трымценне дубовага лісця», «Апошняя восень», «Развітанне ў Кавальцах».**

М. ЗЯНЬКОВІЧ. Салёны год. На рускай мове. Мінск, «Юнацтва», 1989.

**Сёння, як ніколі раней, шмат пішацца пра армію. Расказваецца і пра нестатутныя ўзаемаадносіны, і пра шматлікія непарадкі, калі зневажаецца чалавечая годнасць. Не без гэтага, як кажуць. Але ж армія была, ёсць і будзе той суровай школай, праз якую трэба прайсці многім. Мікалай Зяньковіч, расказваючы пры першы год службы ўчарашніх «цывільных» юнакоў, прасочвае няпросты шлях іх сацыяльнага, грамадзянскага і маральнага станаўлення.**

# ЧАГО НЕ БУДЗЕ Ў СЛОЎНІКУ...

(Пачатак на стар. 5).

трапілі адзінкі. Абмінуты браты Камаровы, браты Сухазанеты, Ваноўскі, забытыя бацька, сын і ўнук Скобелевы, якія паходзілі з беларускага роду, што апынуўся на Волзе. Два ўраджэнцы Беларусі сталі ваеннымі міністрамі Расіі — адзін з Сухазанетаў і Ваноўскі, але ніводзін з іх не ўспомнены, як і паплечнікі Пятра I родам з нашага краю — Меншыкаў, Ягужынскі, Шафіраў.

Што тады казаць пра персаналіі з «Польскего словніка біографічнэго», або «Русского биографического словаря»? Там на кожнага з Глінскіх, Сапегаў, Радзівілаў заведзены асобныя артыкулы, а ў ПС яны згуртаваны ўсе разам у адным: «Радзівілы», «Глінскія», «Сапегі» і г. д.

Вяртаючыся да адлюстравання айчынных дзеячаў, мушу адзначыць, што тут выявілася даўняя тэндэнцыя разглядаць гісторыю Беларусі, як гісторыю аднаго з куткоў Вялікай, адзінай і недзялімай Расіі. Павялося гэта, як давёў у артыкуле «Прынцыпы і факты» («ЛіМ», 29.IX.1989) Анатоль Грыцкевіч, ад манархічных гісторыкаў дарэвалюцыйных часоў. Пратрывала ж да сённяшняга дня. І вось пералічана ажно 30 прозвішчаў дзекабрыстаў, затое толькі 4 прозвішчы філаматаў (Дамейка, Міцкевіч, Чачот, Зан), дзейнасць якіх праходзіла на Беларусі, было непаўторнай часткай яе грамадскага жыцця. Увогуле нацыянальна-вызваленчы рух XIX стагоддзя на Беларусі прадстаўлены недастаткова, не хапае артыкулаў пра шматлікіх дзеячаў паўстання 1863 г. Пра Пуслоўскага, напрыклад, або пра медыкаў, удзельнікаў паўстання. Каго яшчэ персанальна няма ў слоўніку? Няма рэвалюцыянера Багданава з Гарадзенскай губерні родам. Няма жорсткага каменданта Вільні пад час акупацыі яе маскоўскім войскам у 1656 г. Мышацкага, якога так шчыра ўхваляла чарнасоценная «Белорусская (пазнейшая «Северо-западная) жизнь», ренегата Саланевіча. Няма пісьменнікаў пачатку XIX ст. Яна і Ігната Ходзькаў, няма генерала 1812 года Заёнчака. Няма і першага дваранскага рэвалюцыянера не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, які спалучыў шляхецкі рух з сялянскім, — Міхала Валовіча, якога павесілі па загаду Мураўёва-Вешальніка.

Абыдзены прозвішчы дзеячаў рускай культуры беларускага паходжання XV—XVI стагоддзяў — Ціхана Лухаўскага, Васіяна Касога, Іосіфа Волацкага, Івана Перасветава.

Згодна традыцыі сталінскіх часоў, пра дзеячаў, якія не належалі да бальшавіцкай партыі, пісалася як мага менш. Гэтая традыцыя вытрымана і ў праекце слоўніка. Ці не таму з дэпутатаў чатырох складаў Дзяржаўнай Думы ад беларускіх губерань названы толькі Буслаў і Кандрашук (з упамінаннем таго, што яны дэпутаты), а таксама Р. Скірмунт, Роп, Шмід і Сацуноў (без такога ўпамінання). А куды падзеліся астатнія? Ці іх не выбіралі жыхары Беларусі? Ці ж яны не былі ўпаўнаважаны абараняць інтарэсы выбаршчыкаў? І гэта ў той час, калі да вопыту Думы зараз усё часцей звяртаюцца журналісты і гісторыкі.

Хацелася б выказацца і наконт артыкулаў пра гісторыкаў. Мяркуючы па колькасных паказчыках, усё добра. Пералічана ажно 315 прозвішчаў беларускіх савецкіх гісторыкаў. Але колькі ў іх ліку — аўтараў прац, якія ў выглядзе дысертацый леглі на паліцы і не мелі практычнага выхаду на чытача? Ніл Гілевіч у сваім артыкуле «Між былым і наступным» (сшытак пяты) («ЛіМ» 6. X. 1989) з горыччу піша пра «спекулятыўна - палітычны падыход, які ёсць ні што іншае, як прафанацыя гістарычнай навукі» ў шмат якіх дысертацыях. І ўсё гэта ішло і ідзе «на вачах усяго грамадства, на ўзроўні здзеку не толькі з навукі, але і з усякага здаровага сэнсу...»

І вось у той час, калі аўтары падобных гістарычных прац трапілі ў праект, там абмінуты іншыя, непажаданыя імёны. Імёны гісторыкаў, што стваралі ў 30-я гады «Бібліятэчку» «Дапамога для настаўніка, які рэалізуе праграму публічнай агульнай школы на Віленшчыне і Навагрудчыне» пад рэдакцыяй В. Арцымовіча, аўтары часопіса «Атэнеум Віленьске», амаль цалкам прысвечанага гісторыі Беларусі і Літвы, прапушчаны імёны польскамоўных гісторыкаў Беларусі, літоўскіх, украінскіх, амерыканскага даследчыка О. Бакэса.

Ну і зусім дрэнна з гісторыкамі і дзеячамі Заходняй Беларусі і эміграцыі. Дарэмна шукаць прозвішчы Я. Найдзюка, І. Любачкі, Л. Акіншэвіча, М. Ільяшэвіча, Я. Станкевіча, М. Шкялёнка, С. Брагі, А. Калубовіча і інш. Не выкарыстаны нават нарыс Б. Сачанкі «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні» («Маладосць», 1988, №№ 10—12). У першыя паслярэвалюцыйныя гады ў нашай краіне, у тым ліку і ў БССР, была больш гнуткая, чым зараз, палітыка. Ісцінная прызнавалася культура нацыі, якая стваралася не толькі ў пэўных адміністрацыйных межах, але і па-за імі. Пазней стала інакш. Згадаю выказванне Томаса Мана, які сцвярджаў, што Германія там, дзе ён. Вось чаму мне здаецца, што выкрэсліваць з энцыклапедыі імёны людзей, якія апынуліся ў эміграцыі, — гэта анахранізм. Зусім неабавязкова салідарызавацца з іх поглядамі, але трэба зразумець іх становішча і пазіцыю.

Вяртаючыся да пытання аб персаналіях, лічу, што згаданая вышэй сітуацыя невыпадковая. Гэта слоўнік не ўсёй праблематыкі гісторыі краю, а толькі тэм, што распрацаваны тымі гісторыкамі, імёны якіх значацца ў праекце. Вось чаму аддадзена такая перавага сучаснай гісторыі Беларусі.

Таму прапаную раздзяліць ЭГБ на дзве серыі, зыходзячы з наяўнасці спецыялістаў па гісторыі краю: на энцыклапедыю гісторыі КПБ і энцыклапедыю гісторыі Беларусі. У нас з калегамі-гісторыкамі толькі два шляхі: аб'ектыўна адлюстроўваць мінулае Беларусі, у тым ліку ў ЭГБ — і тады яна будзе ўспрымацца чытачом, альбо рабіць справу мінулых дзесяцігоддзяў — справу загадзя няўдзячную. Аб'ектыўная ісціна ўсё роўна будзе абавязкова зафіксавана, але ўжо ў іншых выданнях. Я ў гэта цвёрда веру.

г. Ленінград.

## Думка чытача

**Пра паэтаў (іх зборнікі, нізкі, асобныя вершы) пішуць крытыкі і рэцэнзенты — па заказу і па ўласнай ініцыятыве, пішуць чытачы — найболей землякі, пішуць паэты — найчасцей маладыя. На гэты раз прыйшлі два водгукі на адну кнігу. Маецца на ўвазе першы зборнік Анатоля Зэкава «Боль сумлення», выдадзены ў канцы мінулага года ў «Бібліятэцы «Маладосці». Ю. Пацюпа і Н. Шклярава дыяметральна разыходзяцца як у ацэнцы твораў А. Зэкава, так і ў поглядах на сутнасць крытыкі ўвогуле. Н. Шклярава лічыць, што «шукаць недахопы ў першых спробах проста недалікатна», што першыя кволыя парасткі» дагледзець трэба, а не выпрабоўваць холадам і знявагай». У заўвагах Ю. Пацюпы, тым не менш, замнога катэгарычнасці, ён называе вершы А. Зэкава «зарыфмаванымі перадавіцамі» і лічыць такія зборнікі «небяспечнымі» для аўтарытэту роднай мовы. Мусім заўважыць, што гэта не новы і цалкам памылковы пункт гледжання — ускладаць віну за сённяшнюю моўную сітуацыю на плечы літаратараў і літаратуры. Што ж тычыцца першага вершаванага зборніка А. Зэкава, то мы прадстаўляем чытачам магчымасць прачытаць яго і самім паставіць кропкі над «і».**

# КАЛІ НАБАЛЕЛА Ў ДУШЫ

**...Хрыстос прызямліўся**
**у Гародні,**
**У Оршы ці ў Капылі,**
**Бо кожны куток яму родны,**
**Дзе б ён ні ступаў па зямлі.**
**Хрыстос прызямліўся.**
**Па бруку**
**Ідзе нераспяты Хрыстос,**
**То човен спускае ў рачулку,**
**Каб гойдаць на хвалях**
**свой лёс**
**І плысці да самага неба,**
**Ухапіўшы вясёлку за хвост.**
**А людзі расставілі невад.**
**Ці ўбачыш ты невад,**
**Хрыстос?**

Чаму я пачынаю гаворку аб кнізе «Боль сумлення» іменна з верша, прысвечанага памяці У. Караткевіча? Таму што ў ім найбольш поўна падаецца вобраз аўтара верша, паэта Анатоля Зэкава, майго земляка з Гомельшчыны.

Ягоныя радкі азваліся ў маёй душы гулкім рэхам. І ажыло роднае, спрадвечнае...

**І жыць захочацца спачатку**
**Мне каля роднага жытла,**
**Дзе маці высадзіла градкі,**
**Аднак дагледзець не змагла.**

У сваіх вершах Анатоль здолеў саткаць у адзінае палатно мінулае з сённяшнім днём, дзе цесна перапляліся «Наша даўняя песня, нашы новыя дні».

Лірычны герой вершаў Анатоля Зэкава — гэта чалавек з яшчэ не кранутаю чэрствасцю душой, адкрытай насцеж для ўсіх, каму трэба яго спачуванне, дабрата, яго міласэрнасць. Шчымлівы боль сумлення пранізвае амаль кожны радок.

Па гэтай жа прычыне нельга раўнадушна, без скрухі і болю чытаць ягоную паэму «Аварыя сумлення».

**«Не бяры»,**
**«не руш»,**
**«не трэба» —**
**Забароны знак на ўсім,**
**Як пражыць пад гэтым**
**небам,**
**Я не ведаю зусім!»**

Побач з журбою і скрухай жыве ў кнізе Анатоля Зэкава вера ў родную зямлю, у свой забыты векам, але заўсёды працавіты народ.

**«Бяда ўсіх нас прасвяціла,**
**І кожны высвеціла лёс».**

Многае хацелася б адзначыць у кнізе Анатоля Зэкава. І прастату радка, сагрэтую пачуццём, і дасціпную ўсмешку:

**«Як паслухаеш,**
**То цельны**
**На базары нават бык.**
**(«Буда-Кашалёўскі базар»).**

І самыя-самыя, што запалі ў душу вершы: «Усё мяне на свеце носіць», «Хрыстос», «Смерць конюха», «Дачкі няма ніводнай», «Апошні конь», «Сыходзячы апошнім словам», «Мой бацька робіць труны», «Які саткаўся ты»...

Удала саткаўся паэтычны зборнік А. Зэкава. Так, не ўсё ў ім гладка, не ўсё дасканала, калі глядзець з прафесійнага боку. Але і сам аўтар ведае гэта, што добра бачна з яго вершаў.

Лічу, што шукаць недахопы ў першых спробах проста недалікатна. Разбіраць трэба майстроў слова і вучыцца ў іх. А першыя парасткі — кволыя. Іх даглядаць трэба, а не выпрабоўваць холадам. Сапраўды, што рабіць чалавеку, калі набалела ў душы, выспела, а слоў не хапае? Маўчаць? Вядома ж, не. Кожны з нас гаворыць пра тое, што баліць. І гаворыць як умее.

**Ніна ШКЛЯРАВА.**
г. Гомель.

# АЛЕСЕВЫ СЦЕЖКІ



**Да 85-годдзя з дня нараджэння Алеся ПАЛЬЧЭЎСКАГА**

Гэта не метафара, гэта хутчэй геаграфічная назва мясцовага значэння. Так завуць торную сцежку праз густы зберажоны прусінаўцамі лес ад станцыі да наднёманскай вёскі вось ужо некалькі пакаленняў вяскоўцаў.

Працерабіў яе, раскарчаваў, зараўняў калюжыны іх руплівы зямляк Алесь Пальчэўскі. Ён штогод ад першых праталін да апошняга апалага ліста лёгка і весела тарыў сваю сцяжынку, перасвістваючыся з драздамі і сініцамі, перагукваючыся з рэхам, голасна спяваючы «Ці свет ці світае»... Спыняўся і лічыў, колькі яму накувае зязюля гадоў.

Ашукала зязюля нястомнага падарожніка... Апошні раз працярэбленая ім сцежка прывяла яго на вясковы пагост, і лёг назаўсёды руплівы сын гэтай зямлі ў родны жвір побач з бацькамі і землякамі. Але засталіся кнігі Алеся Пальчэўскага, засталася людская памяць, любоў і пашана, а ягоная сцежка і сёння служыць нашчадкам яго равеснікаў.

Жыццёвыя сцежкі Алеся Пальчэўскага былі то светлыя і роўныя, то пакручастыя і цярністыя, заблытаныя ў змроку пакут і трагедый. А ён заўсёды заставаўся нязменны ў сваёй дабраце і чуласці, спагадлівым, шчырым і міласэрным. Жорсткасць жыцця і ўладарных людзей не счэрсцвілі яго сэрца, а паглыбілі мяккасць, чуллівасць і высакародства.

Адкуль жа ў чалавеку столькі дабра, спагады і чалавечнасці? Ці не з прадвечнае сялянскай педагогікі, з калыскі засвоенай ад бацькоў, дзядоў і прашчураў нашых.

Першая Алесева сцежка пачыналася ў раннім юнацтве: яго бацька вёз з наднёманскага Прусінава ў навуку, на сталічны рабфак, а потым ва універсітэт.

У спавядальна шчырай аўтабіяграфічнай аповесці так Пальчэўскі ўспамінаў тую хвіліну расстання з маці: «Усе вы ростам пайшлі ў бацьку. Галавы твае не дастаць, сынок,— кажа ласкава мама. — Нагніся, я благаслаўлю цябе, — і, цалуючы яе ласкавую спрацаваную руку, я адчуваю, як дзве буйныя слязіны падаюць на маю загарэлую шыю». Маці благаславіла на дабро і добра што не ведала якія пакуты чакаюць яе сына.

У сталіцы даверлівы шчыры Алесь трапіў у вясёлы гурт сяброў-аднакурснікаў, блізка сышоўся з Петрусём Броўкам, Васілём Кавалём, Сымонам Баранавых, Янкам Скрыганам, Макарам Шалаем. І сам на ўсё жыццё «захварэў» літаратурай.

Упершыню мы сустрэліся ў 1931 годзе ў вузенькім пакойчыку рэдакцыі дзіцячага двухтыднёвіка «Іскры Ільіча». Рэдактарам быў Алесь Якімовіч, сакратаром Пальчэўскі і з дапамогаю мастака Ізмайлава ўтрох выпускалі часопіс.

Высокі, статны, далікатны ў паводзінах і ў абыходжанні, Пальчэўскі меў прыцягальную абаяльнасць, увесь прамяніўся дабром, шчырасцю і ласкай.

У «Іскры Ільіча» Купала прынёс «Хлопчыка і лётчыка», ахвотна друкаваў свае вершы для дзяцей, Колас заходзіў з новымі раздзеламі «Міхасёвых прыгодаў», чакаў пакуль прачытаюць і што скажуць рэдактары.. Часцей у рэдакцыю заходзілі Янка Маўр, Дудар, Кляшторны, Багун, Маракоў, маладыя і пачынаючыя пісьменнікі і мастакі.

Блізка звёў мяне з Алесем Пальчэўскім лёс у праклята славутым і трагічна жахлівым 1937 годзе ў перасыльным сутарэнні Мінскай турмы, а пасябравалі на этапах у Магілёўскую перасылку і ў халодных і курных «цялятніках» па дарозе ў лагер. Мы з Алесем у адной брыгадзе валілі лес, спалі бок пры боку на голых нарах у даўжэзнай палатцы, дзяліліся апошнім сухаром, цыбулінай і драбком цукру, дапамагалі і ратавалі адзін аднаго, як толькі маглі. Як ні старалася нас разлучыць і раскідаць лютае начальства, мы шукалі і знаходзілі адзін аднаго, мне пашанцавала тройчы быць з Алесем на адным лагпункце.

Надоўга нас разлучыла «вечная ссылка», а пасля вызвалення апошнія 23 гады Алесевага жыцця мы заўсёды былі разам. Ён трохі раней за мяне вярнуўся ў Мінск, неўзабаве адшукваў мяне ў Сібіры і пераканаў, што пара вяртацца дадому. Я паверыў вернаму другу, прыехаў і на першым часе знайшоў прытулак у Алесевым прыватным пакойчыку.

Потым разам працавалі ў рэдакцыі «Вясёлкі», а перадаўшы часопіс маладзейшым, не маглі і дня абыходзіцца адзін без аднаго. Алесь меў асаблівую прыцягальную сілу: да яго на вуліцу Чарнышэўскага па душэўнай неабходнасці прыходзілі Юрка Гаўрук, Рыгор Бярозкін, Уладзімір Мяжэвіч, Янка Скрыган, Васіль Хомчанка, дачка Тодара Кляшторнага і я. Бывалі ў яго кватэры настаўнікі і вучні, бібліятэкары і пачынаючыя празаікі. Колькі ён зрабіў дабра і колькі падтрымаў талентаў, нават цяжка ўспомніць.

У невялічкім пакоі, дзе гас-

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**



## *Каляровыя халады*

На сваім сямідзесятым годзе
Зноў іду ў паклон былых гадоў:
Як жа многа ў баявым паходзе
Зведаў каляровых халадоў!

Ранняя вясна майго юнацтва
Не прыносіла мне цеплыні,
Як пад маркай «лютага кулацтва»
У Сібір нас гналі ў тыя дні...

І пасля мне вёсны, леты, зімы
Аж чатыры цяжкія гады
Дома і далёка ад радзімы
Усё тыя ж неслі халады.

Я не мог на снезе між акопаў
Укрывацца цёплым кажушком,
Калі побач валагодскі хлопец
Чэрпаў дно з крынічкі кацялком.

Гімнасцёрка мокра абвісала
На салдацкіх стомленых плячах,
Вісла, чорнай хмарай абвівала
І трымцела далеч у вачах.

То зялёны колер, то барвовы,
Ці то сіня-белы, як той снег,
А з нябёсаў падаў ліст кляновы
І кароткай перабежкай бег...

Толькі раз адзін усёй душою
Я вясенні зведаў халадок:
Перад цёплай майскаю імжою
Першы ў дрэве выбіўся лісток

І пад грукат шчаснага салюта
На плячо з галінкі мне апаў.
І дарога павярнула крута
Нас дамоў —
Да цёплых ніў і траў.

## *Вуліца Прыгожая*

Алесю ЗВОНАКУ

Ёсць у Мінску з назваю такою
Вуліца яшчэ з сівых вякоў:
У цішы маленькага пакою
Быў прытулак тут для дружбакоў.

Кожны гэту вуліцу Красіваю
Добрым рускім словам называў.
Каля вокан пераспелай слівою
Гучна жнівень долу ападаў.

На вакзал прыземістыя домікі
Паглядалі з маладых прысад.
Тут жылі паэты, вершаў томікі
Неслі ў выдавецтва — і назад...

Ды не толькі гэта прыгадаецца,
Калі сёння пройдзеш ты па ёй.
Тут на кожным кроку спатыкаецца
Аб каменне лёс жыццёвы твой, —

Бо адсюль цябе, тваіх таварышаў
Сярод ночы павялі ў астрог:
А за што? Не ведаў сам.
І ў твар ужо
Біў наступны дзень тваіх трывог.

Кроў крапіла вуліцу Красівую,
Строй паэтаў пачынаў знікаць...
Можа, не Красівай — Рэпрэсіўнаю
Нам яе сягоння называць.

## *Ля Вечнага агню*

Сама любоў мяне да ўнукаў горне
І я гатовы пакланіцца дню,
Калі яны на варту ў школьнай форме
Ідуць гурбой да Вечнага агню.

Але трывожыць неспакой сардэчны:
Ці так для нашых будучых вякоў
Мы памяць нашу і агонь наш вечны
Ахоўваць вучым гэтых юнакоў?

Навошта ад навукі адрываем
І ў форму бояў апранаем іх?
Ці ж гэтым пандаем з родным краем
І з мовай нашых маці дарагіх?

Мне замяніць іх хочацца сабою,
Самому стаць ля полымя таго:
Нібыта толькі што вярнуўся з бою,
Згубіўшы друга вернага свайго...

Ці знаю, чым яго душа святая
Жыла, дзе сёння сябрава сям'я?
Магчыма, іншы хтось недаядае,
Не дасыпае ў свеце, а не я...

На плошчы славы месца ёсць учынкам
Для ўсіх людзей — старых і маладых.
А вось бы гэтым хлопцам і дзяўчынкам
Не аўтаматы ў рукі — болей кніг!

Гляджу на іх,
Як з выпраўкай, старанна
Яны чаканяць крокамі граніт —
І пачынае зноў старая рана
Узрывацца ў сэрцы
Быццам дынаміт.

**Валянціна АКОЛАВА**



# МНЕ Ў ЖЫЦЦІ ЎСЯГО Й ТРЭБА...

## 1. Праўдзівы дыялог

Вёснаў груз у свае дзве мазольных рукі
Возьме мама. Прыгорбіцца — цяжка
і смела...
— Да апошняга дня лёс хай будзе
такім —
Над абрусам прашэпча ў дзень
Тройцы белай.

І ў папрок, што цураецца мовы народ,
Слова горка-шчымлівага мне не
падорыць,
А раскажа слязьмі:
— Бульбу гневіць няўрод.
Дзесяць год ён нязвана да поля
прыходзіць...

І вітаецца смерць: брат апошні —
памёр,
І цяпер—сіратой мама слуцкаму роду...
— Мая гордая мова — нязгасны касцёр.
Быць паводкаю думак — не меленькім
бродам...

## 2. Аднойчы... раніцаю ў Мінску

Мне прызнаўся рыфмач з лёгкасць-
моваю ў вершах:
— Мінск з Масквою злучаю. Хай
два гарады
Адэкватнасць душы маёй,
скваплівa-грэшнай,
Прывячальна злучаюць у два невады:

— Рыфмы ловяць, як рыбу, —
напорыста, з мэтай...
Разнявольваюць думкі— як рэкі масты...
І ад мезенца правай рукі браў сюжэты,
Да спартанскай сваёй грашаваў праваты.

Слоў — слізота, гаркота... салодкавасць
жалю
Не мінала разбураных воч. Дзень
даўжэў...
— Я ў сяброўскай гамонцы была,
як чужая...
— Веку, як ты адзін, калі мноства ілжэ?

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**



# Групавы партрэт з Мамлакат Нахангавай

**АПАВЯДАННЕ**

— З НІМІ ты, дзетка, са сцяны гэтага анціхрыста ды кінь яго мне ў печ!.. А то, не дай божа, нарвуцца ў хату немцы, то паб'юць нас усіх тут.

Так, палячы раніцай у печы, паказвае цётка Іваніха дачцэ Сашы рагачом на Сталіна з Мамлакат Нахангавай на руках. Мамлакат адной рукою трымае ружы, другою, па-дзіцячы, даверліва, абдымае Сталіна за шыю. А Сталін пазірае на гэта ўзбекскае дзіця і ласкава ўсміхаецца яму...

Той даваенны здымак ведаў кожны малы і стары. Спачатку абляцеў ён усю краіну на газетных палосах. А неўзабаве, на ляту падхапіўшы тую б а ц ь к о ў с к у ю сталінскую пяшчоту, узяліся — адзін перад другім навыперадкі — шчыраваць над ёю і мастакі.

Як хто здалеў!

Мой мастак — закаханы ў мяне настаўнік пачатковай школы ў нашай вёсцы — Сталіна з Мамлакат Нахангавай намаляваў мне алеем на фанеры. Сапраўдную карціну намаляваў! Дагэтуль, у пісьмах у Слуцак, дзе я вучылася ў педвучылішчы, ён найбольш стараўся над акварэльнымі мініяцюрамі. Найбольш усё дзявочых галовак — кучаравых, прыгожанькіх, у вяночках з кветак... Відаць, за вочы, на адлегласці за васемнаццаць вёрст, такою ўяўлялася яму я сама... Што кучаравая, то праўда, але каб ужо надта прыгажуня была, то і сёння не стала б я настойваць на гэтым...

А тут была карціна! Як дзе-небудзь у музеі.

Знакамітая ўзбекская стараннiца па бавоўне выдавала, праўда, не на школьную вучаніцу, хутчэй за ўсё гэта было ладнае дзяўчо яшчэ з дзіцячага садка — гэтакае працавітае, гэтакае славутае! А пра Сталіна можна было толькі захоплена выдыхнуць: горды горны арол!

Памятаю, прыехала я ў тую суботу на выхадны дзень дадому і, ледзь паспеўшы перакусіць і перакінуцца словам з хатнімі, адразу ж памкнула ў школу. Узяць у бібліятэцы кнігу — пачытаць на выхадны... Уяўляеце, якое спрадвеку здатнае было на вынаходніцтвы каханне!.. Вядома ж, лепшай за кнігу зачэпкі немагчыма было прыдумаць, каб пабачыць таго, хто амаль штодня пісаў табе лісты і адпраўляў іх у канверце разам з прыгожанькімі дзявочымі галоўкамі і якому сама ты няўтомна складала акрыленыя адказы, і з якім вы, абое, усё яшчэ ніяк не адважваліся пераступіць мяжы з пачцівага «вы» на адкрытае сяброўскае «ты»...

Як ні дзіўна, такі быў час. Такія норавы існавалі. (Сённяшнім маладым можна падарвацца ад смеху!).

Але ў тую суботу — сёння пра яе сказалі б с у д ь б о н о с н у ю — чакала мяне ў школе зусім не кніга. У той зорны зімовы вечар чакаў і страў мяне Сталін з Мамлакат Нахангавай на руках! І, вядома ж, гэта было ні што іншае, як З н а к, як вышэйшае сведчанне к а х а н н я!

І, вядома ж, у гэты самы вечар Сталін з Мамлакат Нахангавай пасяліліся і занялі самае пачэснае месца на сцяне ў нашай хаце. Як зойдзеш з сянец — так вочы ў вочы і стрэнешся! (Мікола-цудатворац і Варвара-вялікамучаніца ад такога нечаканага суседства палахліва пасунуліся цясней у кут і яшчэ больш пазмрачнелі на нашых іконах).

Нашы суседкі, калі каторая забягала пазычыць хлеба ці газы, ці якога там сіта-рэшата, з таго дня не праміналі ніводная папазахапляцца гэтакім умельствам майго мастака, і кожная імкнулася абавязкова наваражыць мне яго ў жаніхі.

— Гэта ж трэба гэтакія ўдалыя рукі мець, каб адважыцца намаляваць самога Сталіна! — захапляліся суседкі (народ умее цаніць таленты!).

Сама я, вядома, нябачна млела. Млела, грэшніца, усё ж болей ад кахання, чым ад Сталіна...

— Глядзі ж, і ты не выпусці са сваіх гэтакіх рук, — давалі мне парады суседкі, найбольш практычныя.

Ды каб яны ведалі — ці адны былі толькі рукі? Былі ж яшчэ і вершы! Іх знаходзіла я ў томіку Пушкіна на старонцы з прысвячэннем Анне Керн... На глянцавым аркушыку ў ружовай рамачцы — на адным баку была заўсёдная кучаравая галоўка ў вяночку, на другім вершаванае прысвячэнне... Мне!

**Чакаю я з табой сустрэчы.**
**Пакутую ад нематы.**
**Гляджу на зоркі кожны вечар.**
**Ці прыдзеш ты? Ці прыдзеш ты?!**

Такі рыфмаваны адчай здаваўся мне невыносным. Васемнаццаць вёрст кожны вечар, вядома ж, ніякае каханне не здольнае было адолець. Затое на выхадныя, у суботнія дні, яно ўзносілася над хмарамі, яно на крылах ляцела над Барэцкім лесам і лунала над блакітным поплавам, па якім звычайна людзі хадзілі босымі нагамі... Дык навошта, скажыце, былі патрэбны яму яшчэ прагныя рукі, каб хапацца, каб трымаць і не выпускаць рукі д р у г і я?

...І ўсё ж здараецца так — я і не заўважаю нават калі і чаму, — што я в ы п у с к а ю з р у к свайго мастака, і ён малюе карціны ўжо другой, а не мне.

...Аднак Сталін з Мамлакат Нахангавай усё роўна застаецца вісець на сцяне ў нашай хаце. Нават і тады застаецца, калі, дабудаваўшы канал Масква — Волга, вяртаецца дадому Валодзя — гаспадар мае стрыечнае сястры Сашы (у яе сям'і жыву я пасля смерці мамы). Будаваў ён свой канал сем гадоў, а павінен быў дзесяць. Будаваў праз кабылу Пальму. Вёз здаваць дзяржаве хлебанарыхтоўку, а неразумная жывёліна спалохалася страшэннай нязвычнай у небе птушкі — аэраплана. Упудзілася і насіла чалавека з возам па палетку, потым выламалася з аглабель і, зусім ашалеўшы, узбілася каля калгаснай канюшні на барану. Злачынства было відавочнае. Дзесяць гадоў па тым часе — мерка была таксама адпаведная. І Валодзя вывез ужо не конна, а на тачцы — і нават датэрмінова вывез! — нарыхтоўку кубоў зямлі, адмераную яму роднай дзяржавай.

...Сталіна з Мамлакат Нахангавай застала ў нашай хаце і вайна.

●

— Давай сюды ў печ гэтага ідала, — настойліва паўтарае цётка Іваніха, падкідваючы дроў.

Саша здымае са сцяны Сталіна, змахвае рукавом з яго пыл і, абыякава перавярнуўшы правадыра дагары, адказвае мацеры:

— Чорт яго бяры, закіну на гару. А то, можа, вернецца Лена, дык яшчэ спытае...

(Я ўжо даўно далёка ад дому. Вучуся ў настаўніцкім інстытуце ў Рагачове. Там страчае мяне вайна, і дома пра мяне няма ніякіх чутак. Сястра Саша ездзіла ўжо варажыць на мяне аж на Урэчча — там аб'явілася ва-

Край расійскі, з вялікаю мовай дзяржаўнай!
(Найславянскае брацтва за Вечнасць мацней).
Не даруй, калі нехта з мяшчанствам іржавым
Беларускую годнасць зняславіць пры мне.

Слова матчына — гэта не гушкат арэляў,
Не вясельны картэж, не размоў барышы...
— Хто пясняр, хто рыфмач, хто бязродны Амеля,
Сам адрозніць народ, што не пляміў душы...

## 3. Два пісьмы з-пад Асвеі

— Для мовы месца родненькае ў кнігах?
Трывожыцца век — Свіслач над Нямігай:
Вось-вось паводка схлыне. Лёд змярцвее...
Мне два пісьмы прынеслі з-пад Асвеі:
Ад лесавода, медыка — дзвюх Люсяў,
Што лёсам звязаныя з Беларуссю...
Прыводжу іх выказванні прамыя:
«Мы на зямлі бацькоў — як нежывыя,
І — рускую не ведаем. І з роднай
Абходзімся, як быццам не з народнай...
Замежную, «як кій арэхі — зверху...»
Хіба з саміх сябе не досыць смеху?
Пішыце так, каб мова з кніг — і ў людзі!»

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Жанчынкі, мова Маці — Дзецям будзе!

## 4. Экалагічны мітынг

Экалагічны мітынг... мой народ —
Святлынны мовародны і цярплівы,
Генетыку не знішчы... на няўрод
Не аддавай свае лясы і нівы...

— Вы бачылі, «аграрныя» хлусцы,
Калі вада захлынвалася ў мелі?
І як ля Случы плакалі касцы,
Мурожныя лугі правоў не мелі?
І тэрыконы з солі — мялі грунт,
Сціналі нервы маладому лету?..
Экалагічны мітынг... сэрцаў бунт...
Дапамажы прыродзе, боль паэтаў!

Бо што чый голас з мёртвае зямлі?!
Прашу Вас, людзечкі, як пры маленні:
— Слязой не кормяць зерне ў май-раллі,
Бацькоўскі край не заслужыў знішчэння.

Мая радзіма — кроў славянства й крык,
Зубр белавежскі ў позірку стагоддзяў.
Здаровай прачынайся на зары.
За роднай моваю — нашчадак пойдзе!

## 5. Галасую за мову — случанскім радком

Мне ў жыцці ўсяго й трэба: мой краю былінны,
Мова, рукі матулі ў мазолях гадоў,
І каханага вернасць, і гордасць каліны,
Калі восень прыносіць плады свае ў дом.
І каштуе на смак з горкай красенню гронкі.
І глядзіць на палотны зімы, як багоў...
Мне ў жыцці ўсяго й трэба, каб радасці толькі
Не згубіў майго сэрца случанскі агонь.

І сляза, калі пойдзе ад зрэнак гарачых,
Не закрэсліць святла ў непраглядную ноч,
А ўратуе разлуку ад горкага плачу,
І не зможа прайсці каля шчасця паўзбоч.

Мне ў жыцці ўсяго й трэба — радок пра айчыну,
Што падорана мне і для іншых — навек, —
Голас песні жывой, а не гоман грачыны,
І расы белай твар на купальскай траве...

Мне ў жыцці ўсяго й трэба!

ражбітка, якая ўсё на свеце ўмела раскінуць і ўбачыць на картах. Пра мяне яна сказала: «Нідзе не шукайце, нідзе не знойдзеце. Сама абзавецца і прыедзе»).

— На чорта ён ёй здаўся, анціхрыст гэты! Дык яна яшчэ будзе хаваць яго на гары, — злуе цётка Іваніха.

— Няхай сабе валяецца. Хто яго там убачыць, ці будзе шукаць там?

— Ды, пэўна ж, чаго там на той гары немцы не бачылі? У людзей, чутно, шнырэць па курасаднях, ды што смачнейшае і падабнейшае па хатах грабуць...

Пра немцаў у нашай Даманшчыне гавораць яшчэ без асаблівага страху.

Маленькая лясная вёска наша стаіць далёка ад Бабруйскай шашы. Нябліза і ад урэцкага шляху. Гэта там ужо, кажуць, і войска, і матацыклаў, і танкаў... А ў нас праз вуліцу праімчалі ўсяго мо якія разы тры машыны з нямецкімі салдатамі. Спыніліся аднаго разу каля Няронскіх, спыніліся каля Фрасынінай хаты.

Матка, млека! Матка, яйка!

Дык жанкі, вядома, адразу ж і панеслі ўсё, што загадвалі... Піце, жарыце — няхай вас паразрывае! На гэтым усё на той раз і абышлося. Старэйшыя, хто памятаў, пачалі ўспамінаць і нават хваліць колішніх немцаў, тых, што стаялі па хатах у васемнаццатым годзе. Тыя дык нават і надта ўжо далікатныя былі. Ніводзін, бывала, не зойдзе ў хату, не выцершы боты ля парога. І да жанок усе былі пачцівыя: фрау ды фрау; і да дзяцей — кіндар ды кіндар, ды яшчэ каторы цукерку ці пернік дасць дзіцяці... То мо і гэтыя будуць не горшыя за тых... Хоць, праўда, чуткі даходзяць страшэнныя. Па іншых сёлах і засценках не мілуюць нікога. Ні старога, ні малога. Рабуюць, гвалцяць, паляць хаты...

...Каля нашых варот тым ранкам спынілася двое матацыклістаў. Той, што ішоў паперадзе, ботам адчыніў фортку, следам за ім па двары загрукаў другі. Абодва накіраваліся ў хату. Цётка Іваніха з дачкою Сашай паспелі схапіць і стрэць іх на ганку з міскай яек і збаном малака. (Ухлынецеся вы ім!)

Але немцы, нібыта і не было іх тут, усё гэтак жа грукаючы падкаванымі абцасамі, прамаршыравалі праз расчыненыя дзверы ў хату. На адну палавіну зайшлі, дзе жыла сям'я, дзе вялася ўся гаспадарка — з печчу, з чыгунамі, з лавамі, сталом на покуці, з ложкамі...

Што ў той хаце было глядзець? Чаго шукаць?

Бразнулі дзвярыма праз сенцы — на чыстую палавіну рванулі дзверы. І там была печ, і стол, і ўслон, і ложкі... Але падлога там была вышараваная і засцеленая вясёлымі тканымі ходнікамі. На ложках гарой уздымаліся неўжываныя (пасажныя!) у наўлечках з прошвамі падушкі. На вокнах ружова і пунсова гарэлі мушкаты...

Як заваёўнікі, як гаспадары, немцы ўладна змералі ботамі і гэту, чыстую палавіну. Зазірнулі, выцягнуўшы шыі, на прыбраную печ. Адсунулі пабеленую засланку, і туды ўткнулі насы. У няпаленай печы стаяла некалькі гліняных і шкляных слоікаў з варэннем (найлепшае месца для летняга схову). Старэйшы немец, відно, начальнік, паказаў знакам маладзейшаму, і той вельмі спрытна выцяг з печы два ладныя слоікі. Панюхаў паперу, якою яны былі шчытна абвязаны, і задаволена рагатнуў, прыціскаючы слоікі з абодвух бакоў да грудзей.

У сенцах, не адважваючыся наблізіцца да расчыненых дзвярэй, стаялі з гладышом і міскай яек у руках цётка Іваніха з Сашай. З-за іх спін з вясёлай цікаўнасцю пазіралі Сашыны дзеці — Насцечка і Дзімка. Жанкі моўчкі, знакамі, забаранялі ім вытыркацца наперад. Валодзі дома не было. Ён з возам паехаў на палетак па снапы. Калгаснае жыта звозілі яшчэ ў калгасныя гумны.

— Партызан? — азіраючы вакол хату і кіруючыся да парога, звярнуўся да жанок старэйшы немец.

— Не, панок, у нашым засценку няма партызан! — жанкі інстынктыўна працягнулі ў руках яйкі і малако.

Немцы выйшлі ў сенцы, і той, што быў відавочна за начальніка, паказаў на дзверы ў камору. Сястра Саша адчыніла дзверы.

— Камора тут, пан. Мука тут, лён няспрадзены, воўна... А вось тут, у бочцы, бярозавы квас, можа, паны пажадаюць напіцца? Смачны... — нібыта немцы здольныя былі зразумець тое, што яна кажа, паказвала Саша на ліпаўку з мукой, на куклы лёну, на клумкі нячэсанай воўны.

— Партызан? — зноў перапытаў немец-начальнік, пазіраючы на лескі, па якіх лазілі на гору.

— Не, панок, у нас няма партызанаў! — зноў у адзін голас, ледзь не загаласілі жанкі. За партызан — яны ўжо добра ведалі — што іх усіх чакала.

— Ніхт партызан! — нібыта хапаючыся за выратавальную саломіну, вынырнула раптам з даўняй, ушчэнт забытай навукі Саша. (Да рэвалюцыі яна скончыла тры класы ў Слуцкай жаночай гімназіі і на ўсё жыццё запомніла гэта кароценькае нямецкае н і х т.

Немец-начальнік загадна паказаў малодшаму немцу на лескі: лезь! Той паспешліва паставіў слоікі з варэннем на дубовае века, якім накрыта была бочка з укіслым бярозавікам і, спрытна перабіраючы маладымі нагамі па перакладзінах лесак, умомант апынуўся на гары.

Жанкі знямела зірнулі адна на адну.

— Ды тут бібліятэка! — здалёку, глухавата пачуўся голас маладога немца.

На гары, паводдаль ад стаяка-коміна, ляжала ў нас і сапраўды цэлая гара старых кніг. Я паспела амаль усю яе перачытаць, пакуль яшчэ жыла пры сястры і вучылася ў школе. Старэйшыя злавалі на мяне (рабі лепей работу!), і сястра Саша не раз вырывала ў мяне з рук кнігу і тушыла позна ўначы газоўку (не начытаешся ты ўсё!), але перайначыць мяне было немагчыма... Шэлер-Міхайлаў, Пісемскі, Станюковіч, Мельнікаў-Пячэрскі, князь Севярын, князь Валконскі... Якое каханне палыхала на пажоўклых старонках іх «раманаў»! (За «раманы» — чытаць іх у мае гады, на погляд дарослых, лічылася непрыстойным — больш за ўсё мне і даставалася...) Кнігі належалі нашаму дзядзьку Піліпу — роднаму брату Сашынага бацькі і мае мамы. На кожнай з іх, на тытульнай старонцы, стаяла пячатка: «Изъ книгъ Филиппа Григорьевича Ждановича-Гуриновича». (Мая мама і малодшая сястра яе ў дзявоцтве насілі адно толькі прозвішча: Гурыновіч. А іх пяцёра братоў насілі прозвішча двайное. Мой дзед Грысь сынам сваім закупіў дваранства. Маючы намер даць ім добрую асвету і вывесці ў людзі... З дачок, на погляд дзеда, павінна было хапіць замужжа.)

У нас дома расказвалі, што недзе ў пачатку дваццатых гадоў, у самы голад, дзядзька Піліп прывёз сваю бібліятэку з Палтавы і памяняў яе ў свае вясковае радні на муку і скорам... Хутка дзядзька памёр ад тыфу, пакінуўшы сына і жонку. Ці то грузінку, ці то татарку (так казалі ў нас дома — да радні дзядзька Піліп яе ні разу не прывозіў). Як скрозь сон успамінаю іх абоіх на фотаздымках з цубкім картонным паспарту. Дзядзька-афіцэр пры пагонах. (Мама, успамінаючы брата, ганарылася яго залатымі пагонамі, а я ўспамінаю зараз сваё: якім гневам кіпела чырвонае камандзірства, калі гэтакія ж залатыя пагоны былі ўведзены, калі ішла Вялікая Айчынная... І салдаты бунтавалі супраць пагонаў...) Шашка ў дзядзькі-афіцэра кранаецца долу. Ён сядзіць — нага закінутая на нагу — у крэсле. У дзядзькі тонкія вусы, прыгожы строгі твар, годная пастава (самы любы мамін брат!) Побач з ім, паклаўшы руку яму на плячук, стаіць нетутэйшага хараства маладая жанчына ўся ў белым да зямлі. На галаве шыкоўны белы капялюш, упрыгожаны... Кветкамі? Страусіным пер'ем?.. Гэтак прыблізна, цяпер, праз хісткую затуманеную адлегласць гадоў узнаўляю я тыя расталыя ў часе вобразы, не маючы ўжо ў каго спытаць, даведацца, удакладніць, калі, адкуль узялося ў дзядзькі Піліпа яго афіцэрства, якое званне і вайсковы чын ён насіў, на чыім баку ён быў у рэвалюцыю і грамадзянскую вайну... У дзяцінстве ўсё гэта было мала цікавае, пазней, у юнацтве, пра такую радню нават успамінаць было небяспечна... Невядома мне, які лёс стрэў пасля дзядзькавай смерці і яго экзатычную (для яго паходжання) жонку і яго сына — майго стрыечнага брата. Спытаць зараз ужо няма ў каго. Усе, хто ведаў, хто памятаў той час, тых людзей, усе памерлі. А фотаздымкі, якія былі ў нашай сям'і, і захоўваліся ў маміным альбоме, яшчэ перад вайной, калі пасадзілі на дзесяць гадоў Валодзю і калі трэслі нас з вобыскам і канфіскацыяй маёмасці (якая там была маёмасць!), усе фотаздымкі мая стрыечная сястра Саша спаліла...

Засталіся на гары толькі дзядзькавы кнігі.

— Тут бібліятэка! — паўтарыў малады немец.

Можа, ён быў, як і я, са студэнтаў... І яго — немца-студэнта, забралі на вайну?

— Хутчэй! Хутчэй! Што там яшчэ? — падганяў з каморы, задраўшы галаву на яго голас, немец-начальнік.

— Адзін момант!.. О... Ды тут яшчэ і Сталін! — раптам спалохана выгукнуў з гары немец-«студэнт».

— Чорт вазьмі! Які Сталін? — абурыўся немец-начальнік.

— Адзін момант! — на гэты раз нейкім вельмі нервовым фальцэтам азваўся малады немец. Відаць, ён хоць і студэнт, усё ж быў спраўны служака.

І сапраўды — у адзін момант! — над лескамі мільгнулі падэшвы яго ботаў. А ў вольнай руцэ яго, якою ён не трымаўся за лескі, быў м о й Сталін з Мамлакат Нахангавай...

— Паночкі! — першая загаласіла на ўсю камору цётка Іваніха, працягваючы рукі да маладога немца. — Дайце я спалю ў печы гэтага бандыта!

Немцы зразумелі толькі б а н д ы т а...

— Бандыт?! — забіраючы ў малодшага з рук фанернага Сталіна і Мамлакат Нахангаву, грэбліва адвёў сваю руку немец-начальнік.

— Бандыт, паночкі! Анціхрыст! — яны ўжо абедзве галасілі ў адзін голас — і цётка Іваніха і мая сястра Саша.

— Шыссэн, матка! — немец-начальнік выразна паказаў на аўтамат, які вісеў у яго на грудзях.

Цётка Іваніха з гэтага незразумелага ёй звароту зразумела галоўнае: немец зараз іх пастраляе!

— А дачушка мая! А ўнучкі мае дарагія. Давайце ім хутчэй яечкі! Давайце малако — няхай п'юць!.. Пан, курку зловім зараз... Маладая курка, толькі пачала несці яечкі...

Цётка Іваніха, як магла, заступала сабою ўнукаў і дачку.

— Гэта ў нас дзяўчына жыла. Яна — студэнтка. Вучыцца далёка... На настаўніцу вучыцца. Дык гэта яе ўпадабаў малады таксама настаўнік і намаляваў ёй... — у Сашы не хапіла адвагі назваць Сталіна Сталіным. Ёй, як і цётцы Іванісе, зручней было зваць яго анціхрыстам і ідалам... Мора слёз яна выліла, бездань пакут адпакутавала, і сама яна, і ўся яе сям'я ад гэтага нелюдзя... А зараз праз яго ж і яе дзяцей, і яе маці, і яе самую пастраляюць ужо нелюдзі гэтыя...

Як і яна немца, гэтак і немец не зразумеў у яе ні слова.

Але ўжо цётка Іваніха падавала яму ў рукі, наровячы забраць з іх Сталіна, слоікі з варэннем, а Саша працягвала міску з яйкамі і збан малака.

Дзеці ж, зразумеўшы, што на вачах у іх адбываюцца зусім не жарты, неслі з двара стракатую чубатку з чырвоным, як агонь, грабянцом.

Чубатка апантана білася ў дзяцiных руках, кудахтала на ўвесь свет і рвалася да свае курынае волі. Аднак гэта яе памкненне ніяк не адпавядала ні стратэгіі, ні тактыцы доблесных ваяк фюрэра. Малады немец-«студэнт» спрытна перахапіў няскораную чубатку з дзяцiных рук у свае.

Старэйшы немец-начальнік шпурнуў Сталіна пад ногі і выцер аб яго боты. А потым грэбліва выцер насоўкай рукі і жэстам загадаў свайму падначаленаму імправізаваць сняданак на вольным паветры.

Са слоікам варэння, з аціхлай курыцай, з міскай яек і гладышом малака немцы з сянец рушылі на двор.

Цётка Іваніха схапіла з падлогі Сталіна і кінулася ў хату. Кінулася зрабіць тое, чаго не зрабіла яна тады, калі загадвала дачцэ і тая не паслухала яе.

Печ яшчэ не прагарэла. Агонь імгненна накінуўся і прагна лізнуў жаданую спажыву. Неўзабаве ад яе не засталося ні знаку, ні следу.

Як і ад майго таго рызыкоўнага кахання...

## *На музычнай сцэне*

# ВЕЧАР ОПЕРНЫХ ПРЭМ'ЕР

СЕЛЕТНІ СЕЗОН ДАВТа БССР, як вядома, адметны пастаноўкай дзвюх аднаактовых опер — «Маддалена» С. Пракоф'ева і «Медыум» Дж. Меноцці.

Зварот рэжысёра С. Штэйна і дырыжора А. Анісімава да ранняга твора вялікага савецкага кампазітара падарыў нам радасць адкрыцця невядомай дагэтуль музыкі. Увогуле ў нашай культуры адбываецца цяпер вяртанне невядомых або, правільней, мала каму вядомых *твораў айчынных творцаў*. І калі ў літаратуры гэта ўжо стала досыць звычайнай з'явай, то ў такім груваскім арганізме, як оперны тэатр, усё куды больш складана. Тым больш цікава было прысутнічаць на спектаклі, усведамляючы, што ўпершыню ў краіне музыка ранняй пракоф'еўскай оперы, пра якую нават ў грунтоўных манаграфіях аб творчасці майстра гаварылася толькі ў пераліках,—гэтая музыка гучыць на беларускай сцэне.



Заслужаны артыст БССР Ю. Бастрыкаў (Стэньё) у спектаклі «Маддалена».



Опера «Медыум»: артысткі Т. Кучынская і В. Цішына ў ролях Монікі і мадам Флоры. Фота А. ХАРКОВА.

Музыказнаўца Н. Саўкіна, якая ўпершыню напісала пра «Маддалену» яшчэ ў 1987 г. у часопісе «Музыкальная жизнь» і якая, будучы кансультантам пастаноўкі, на прэм'еры захапіла гледачоў сваім натхнёным уступным словам, заканчвала той даўні артыкул так: «Дзеля таго, каб паставіць «Маддалену», патрэбна нямнога: невялікая сцэна, адна дэкарацыя, тры салісты, маленькі мужчынскі хор, добры асвятляльнік, аркестр, дырыжор, любоў да Пракоф'ева». Вось гэтая любоў да Майстра і аказалася пуцяводнай зоркай у рабоце нашага тэатра.

Адразу ж адзначу цудоўныя галасы салістаў, здольнасць натхнёна існаваць у асаблівым свеце пракоф'еўскіх інтанацый. І аркестр прываблівае сваёй пранікнёнасцю і тонкім спасціжэннем сімфанічнай структуры маляўнічай пракоф'еўскай палітры. Афармленне спектакля (мастак Л. Ганчарова, касцюмы Э. Грыгарук) ярка перадае напружанасць дзеяння, падкрэслівае экспрэсіўнасць музыкі. Суадносіны каларытаў — чырвонага і белага—ствараюць адчуванне прысутнасці фатуму: усё разбураецца з-за Маддалены і ўсё ёю ствараецца. Сцэнограф-дэбютантка Л. Ганчарова своеасабліва адчувае і трактуе фактуру прасторы.

Мне давялося пабываць на двух спектаклях «Маддалены» і пачуць розных выканаўцаў: гэта Н. Руднева і Т. Глаголева ў ролі галоўнай гераіні; Ю. Бастрыкаў і М. Маісеенка — алхімік Стэньё; І. Шупеніч у ролі мастака Джынара—мужа Маддалены. Калі гаварыць наконт «пракоф'еўскага» стылю выканання, для якога характэрны чуйнасць да слова, гнуткасць вакальнай мовы, напоўненай сэнсам і пачуццём, дык першы склад (Н. Руднева, І. Шупеніч і Ю. Бастрыкаў) мне падаўся больш натуральным. Работа маладой салісткі Т. Глаголевай прываблівае выразнай акцёрскай ігрой, але вакальныя праблемы цалкам ёю не пераадолены.

Оперны тэатр Пракоф'ева—гэта новы тып тэатра: новы тып драматургіі, новы тып інтанацыі, новы тып рэжысуры. Гэта сапраўдная школа майстэрства як для салістаў, так і для аркестра. Кожны новы зварот да тэатральнай спадчыны кампазітара варта разглядаць як свайго роду подзвіг: дасюль музыка гэтага класіка XX стагоддзя з цяжкасцю знаходзіць шлях да слухача. Вось чаму такі значны для нас сам факт звароту беларускага тэатра да вытокуududопернай творчасці Пракоф'ева. Па словах А. Анісімава, «адкрыць новы твор вельмі цікавая, азартная справа». Дырыжору ўжо давялося «адкрыць» такім чынам пракоф'еўскага «Вогненнага анёла» ў Пярмі. І вось цяпер — «Маддалена», у музыцы якой можна пачуць нараджэнне многіх тэм і вобразаў будучых шэдэўраў Пракоф'ева, і разам з тым захапіцца драматызмам, трагічнасцю, загадкавасцю і неспазнавальнасцю галоўнай гераіні.

Ды ўсё ж спектакль выклікае (і, я ведаю, не толькі ў мяне) супярэчлівае ўражанне. Шмат у чым яно абумоўлена самім лібрэта оперы, а дакладней рэжысёрскім і акцёрскім яго асэнсаваннем. На мой погляд, гэты тыповы ўзор рускага мадэрну пачатку стагоддзя (якому, натуральна, аддаў даніну і дваццацігадовы кампазітар) трактаваны ў спектаклі занадта рэалістычна, без уліку тых навацый, якімі ўзбагацілася тэатральнае мысленне дзякуючы філасофіі экзістэнцыялізму, эстэтыцы экспрэсіянізму, тэорыі псіхааналізу і г. д. Але як бы там ні было, пастаноўкай «Маддалены» ДАВТ БССР даў жыццё оперы, а гэта само па сабе творчы подзвіг, які ўвойдзе ў гісторыю не толькі беларускай опернай трупы, а і музычнага тэатра ўвогуле.

ТВОР амерыканскага кампазітара Дж. К. Меноцці «Медыум» упершыню гучаў у Мінску яшчэ чатыры гады таму ў Клубе сяброў оперы, і «ЛіМ» падрабязна пісаў пра гэта. Цікавасць гледачоў была вялікая. Тады ж выказваліся і пажаданні пачуць і ўбачыць спектакль у тэатры, дзеля чаго патрабавалася малая сцэна, што была б свайго роду лабараторыяй для оперных эксперыментаў. Але пажаданні—пажаданнямі, а малой сцэны ў ДАВТа дагэтуль так і няма. «Медыум» жа як тэатральны спектакль ажыццявіўся.

Прызнацца, перад прэм'ерай былі ў мяне сумненні: ці не страціць опера пры пераносе на вялікую сцэну, ці не згубіцца яе драматычная вастрыня і праўдзівасць? Але з першага ж з'яўлення В. Цішынай — мадам Флоры, з першых жа яе інтанацый усе гэтыя ваганні зніклі. У спектаклі прывабны цудоўны ансамбль акцёраў — В. Цішына, Т. Кучынская (Н. Кастэнка), Л. Крывёнак (В. Садоўская), А. Кеда, І. Атлыгіна. Сапраўдным акцёрскім адкрыццём аказаўся выканаўца ролі нямога Тобі С. Гаўрыленка, якому ўласцівыя незвычайная пластычная раскаванасць у перадачы разматых пачуццяў героя.

Сапраўдны цэнтр драмы— галоўная гераіня. Цудоўная спявачка, якая валодае выдатным голасам, гнуткасцю, тонкасцю і асэнсаванасцю фразіроўкі, В. Цішына пражывае на сцэне ролю так ярка, як рэдка бывае і ў драматычным тэатры. Безумоўна, паспрыяла сапраўднаму поспеху «Медыума» праца рэжысёра С. Штэйна і музычнага кіраўніка—дырыжора М. Калядкі. Адзначу спецыфічна цёплае, мяккае гучанне аркестра, тонкасць і гнуткасць нюансіроўкі.

ДВА НЕПАРАЎНАЛЬНА РОЗНЫЯ як у музычных адносінах, так і ў плане сюжэта спектаклі, аб'яднаныя паводле прынцыпу кантрасту ў адзін вечар, пачалі сваё жыццё на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Цяжка што-небудзь прадказваць у іх сцэнічным лёсе. Хацелася б, каб праца спевакоў над вобразамі працягвалася ад спектакля да спектакля, каб загадкі «Маддалены», застаючыся імі, усё ж паступова рабіліся нам больш яснымі, а гледачоў і слухачоў у зале з'явілася б больш, чым іх было на другім прэм'ерным спектаклі. Але гаворка пра гледача — асобная гаворка, досыць складаная і сур'ёзная. І мы пакінем яе для будучыні, калі становішча ў нашым культурным жыцці, ды і не толькі ў ім, будзем спадзявацца, стане менш напружаным...

А пакуль у нашым тэатры прывабліваюць пошукі новых адносін з гледачом, ініцыятыва прыахвоціць аўдыторыю да музыкі XX стагоддзя, наблізіць навернае мастацтва да слухача, звяртаючыся да самых патаемных струнаў ягонай душы.

**Іна ГУРАРЫЙ.**

# ТЭАТР МАЛАДОСЦІ

**У біяграфіі кожнага тэатра ёсць свае легенды, якія ашчадна захоўваюцца ўсімі наступнымі пакаленнямі яго работнікаў. Легенды — частка гісторыі тэатра. Часцей за ўсё яны і звязаны з забаўнымі кур'ёзамі, рэпетыцыямі, якімісьці выдатнымі пастаноўкамі, буйнымі імёнамі і абавязкова — з чырвонай датай нараджэння тэатра. Час сцірае ў свядомасці наступных пакаленняў прыватнасці і пакідае ледзь рамантызаваную фабулу, якая тым не менш захоўвае ў сабе парыванне, дух, агульную атмасферу падзей, што яе нарадзілі. У ашчадным стаўленні да падобнай «тэатральнай міфалогіі» ёсць добрая маральная аснова.**

**Падобных рамантызаваных гісторый шмат і ў Гомельскага абласнога тэатра драмы, які адзначае сваё пяцідзесяцігоддзе. Першыя яго артысты называлі сябе леанідаўцамі ў гонар праслаўленага мхатаўскага артыста Леаніда Міронавіча Леанідава, якога аднадушна лічылі заснавальнікам іх тэатра. Вядома, група былых студэнтаў ГІТІСа, якая падрыхтавала яшчэ ў сценах інстытута пад кіраўніцтвам майстра некалькі спектакляў і прыехала ў 1939 годзе ў Гомель, была далёка не самым першым тэатрам, які ўбачылі гамяльчане. Гісторыя тэатральнай культуры горада захоўвае звесткі пра даволі бурнае тэатральнае жыццё рубяжа стагоддзяў: ігралі адначасова па два-тры гастраліруючыя калектывы, ішлі спектаклі з удзелам зорак сусветнай велічыні П. Арлянёва, В. Камісаржэўскай, В. Садоўскай, М. Дальскага і інш. Да пачатку 30-х гадоў на хвалі абуджанага студыйнага руху «сіняблузнікаў» узнік гомельскі ТРАМ, якім кіраваў спачатку Лунц, а потым вядомы беларускі рэжысёр і драматург Я. Міровіч. Тут у 30-я гг. спынілася вандроўная павозка перасоўнага тэатра Галубка, каб стаць БДТ-3 і абжыць няўтульнае памяшканне старога цырка. Да леанідаўцаў у Гомелі было багатае тэатральнае мінулае. Праўда, існаванне кожнага калектыву было кароткачасовым, не мела доўгага творчага разбегу і наступных пераемнікаў.**

**У трупе Гомельскага рускага тэатра ўжо змянілася некалькі пакаленняў. Але жыве ў Гомелі адзін з вядучых акцёраў перадваеннага прызыву, цяпер заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Сяргей Паўлавіч АСТРАВУМАЎ. Пад час сустрэчы Сяргей Паўлавіч моўчкі паклаў перада мной важкія папкі з фотаздымкамі, лістамі, праграмкамі. Найбагаты архіў гісторыі тэатра на зайздрасць любому даследчыку! Але гаварылі мы пра тое, што не занатавалі невялікія газетныя паведамленні перадваеннага часу, але яшчэ захоўвае чалавечая памяць...**

**— Сяргей Паўлавіч, як узнікла ідэя стварыць з акцёрскага курса Л. М. Леанідава самастойны тэатр? І чаму менавіта ў Гомелі?**

— Увосень 1935 года Леанід Міронавіч Леанідаў, які толькі пачаў сваю педагагічную дзейнасць у ГІТІСе, набраў студэнтаў на першы курс акцёрскага факультэта. Тады ён, відаць, і сам не меркаваў, што з яго акцёрскага класа можа выгадавацца творчы калектыў. Ідэя ўзнікла значна пазней. Пасля 3 курса, калі на экзамене па майстэрстве студэнты паказалі першы самастойны спектакль («Рэвізор» М. Гогаля ў пастаноўцы Леанідава), зрабілася відочным: яны ўяўляюць сабой адзіны творчы калектыў. Тым часам у ГІТІСе пачалі мэтавую падрыхтоўку акцёраў для нацыя-

# НАСУПЕРАК ТРАФАРЭТАМ



**Штрыхі да партрэта спевака М. БАГДАНАВА**

Камерная зала філармоніі наладзіла летась сольны канцэрт Мікалая Багданава. Італьянскія і неапалітанскія песні ў ягоным выкананні выклікалі вялікую цікавасць аматараў музыкі. Няхай не здаецца камусьці такая праграма рэпертуарна абмежаванай або—нейкім патураннем густам слухачоў: наадварот, гэтая тэматыка злучае ў сабе лепшыя рысы класічнага вакалу, прастату і непасрэднасць народнай песні, яркасць і эфектнасць, уласцівыя эстрадзе. У ёй адчуваецца настальгічнае пачуццё па цудоўным і ўзвышаным мастацтве, па традыцыях народнай культуры, якія адыходзяць ад нас усё далей, выцясняюцца цяперашняй манерай спеваў. І хоць гэтыя традыцыі ўспрымаюцца сёння ў рэтраспектыве, яны жывыя і паважаныя не толькі ў сябе на радзіме, у Італіі, але і ва ўсім свеце. Такая праграма—радасць і для выканаўцы, і для слухачоў, для якіх спяваў М. Багданаў.

Колькі слоў пра яго. Лаўрэата Усесаюзнага конкурсу вакалістаў М. Багданава ведаюць як выканаўцу з яркімі вакальнымі дадзенымі (лірычны барытон) і шырокімі рэпертуарнымі магчымасцямі. Ён выхаванец Кіеўскай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе на сцэне студыйнага опернага тэатра выканаў шэраг вядучых барытонавых партый у спектаклях «Травіята», «Фауст», «Наталка-Палтаўка», «Севільскі цырульнік», «Лятучая мыш» і інш.

Пасля заканчэння кансерваторыі Мікалай Багданаў прыняў прапанову Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, спадзеючыся прысвяціць сябе жанру аперэты. Тут ён паспяхова выступаў у партыях Эдвіна («Сільва»), Тасільё («Марыца»), Андрэя («Халопка»), Арыфа («Каўказская пляменніца»). Але найбольш паспяховамі былі выступленні М. Багданава на ніве камерна-вакальнага выканальніцтва, калі ён перайшоў працаваць у Беларускую дзяржаўную філармонію. Добрыя сцэнічныя дадзеныя, вакальная школа, строгасць у адборы рэпертуару і ўдумлівая праца над ім забяспечылі спеваку поспех у кож-

## ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# УПЕРШЫНЮ...

На мінулы кніжны маскоўскі кірмаш «ММКК-89» беларускія паліграфісты прывезлі сігнальны экземпляр новай мініяцюрнай кніжачкі «Паэзія» Марка Шагала. Вялікая частка тыражу была закуплена замежнымі фірмамі, і кніга, яшчэ не паступіўшы ў продаж, адразу стала рарытэтам. (Гавару гэта як чалавек дасведчаны. Я з'яўляюся старшынёй Адэскага гарадскога клуба аматараў мініяцюрных кніг. Апублікаваў у 33 гарадах Саюза больш за 90 артыкулаў пра міні-кнігі. Некалькі такіх кніжак складаў сам).

Пра гэтае літаратурна-мастацкае выданне можна гаварыць, прыгадаўшы некалькі разоў слова «ўпершыню»: упершыню вершы М. Шагала выдаюцца асобнай кнігай на яго радзіме, упершыню яны надрукаваны ў мініяцюрным выкананні, упершыню яны з мовы ідыш перакладзены на беларускую і рускую мовы адпаведна Рыгорам Барадуліным і Львом Берынскім, і, нарэшце, упершыню ў мініяцюрнай кнізе ўзноўлены каляровыя ілюстрацыі жывапісца.

Вядома, што Марк Шагал пісаў вельмі чуйныя і трапяткія вершы ўсё сваё жыццё. Яны ўбачылі свет упершыню тыражом 238 экземпляраў у 1968 годзе ў Францыі, дзе ён жыў з 1923 года. У 1975 годзе з'явілася перавыданне гэтай кнігі ў крыху пашыраным выданні. І вось, у канцы 1989 года—трэцяе па ліку, мінскае выданне, у якім 26 вершаў на дзвюх мовах кожны, сем выразных каляровых ілюстрацый карцін мастака («Віцебскі, сіні дом», «Партрэт маёй нявесты», «Партрэт Вавы», «Голая над Віцебскам» і інш.), а таксама невялікае эсэ, пісьмо-плач «Майму гораду Віцебску» (пераклад Давіда Сімановіча), якое было апублікавана 15 лютага 1944 г. у нью-йоркскай газеце, «напісанае ў самыя цяжкія гады вайны і якое гучыць, як гуманістычны наказ землякам» (В. Быкаў).

Мініяцюрная кніжачка (памер 9,2×7 см) з густам аформлена: пераплёт апрануты ў чырвоную супервокладку з рэпрадукцыяй на пераплёце вядомай карціны М. Шагала «Конніца». Адкрываецца кніга невялікім лірычным уступам Р. Барадуліна, унутры ёсць партрэт майстра, вясёлага чалавека з сумнымі вачамі, і здымак яго рук. А на першай старонцы пасля тытульнага аркуша эпіграф мастака «Мае палотны — мае вершы», своеасаблівы ключ да разумення непарыўна звязаных чароўнай паэтычнай творчасці і прафесійнага майстэрства прыроджанага жывапісца і рысавальшчыка, «блакітнага патрыярха сусветнага жывапісу» (А. Вазнясенскі).

Знаёмства з арыгінальнай, нетрадыцыйнай паэзіяй М. Шагала памагае пранікнуць у вялікі ўнутраны свет выдатнага майстра XX стагоддзя, лепш зразумець карціны віцебскага казачніка і ведзьмара, напоўненыя сумам і радасцю, спагадай і любоўю да чалавека. Пачуццём настальгіі, выключнай пяшчотай напоўнены вершы пра маці, пра бацьку, пра настаўніка Пэна. Некалькі вершаў прысвечана Віцебску, радзіме, якую Марк Шагал пяшчотна любіў і якой аддадзена шмат месца ў жывапісе («Радзіма», «Стары дом», «Анёл над дахамі»).

Асобна трэба вылучыць усхваляваныя, поўныя любоўнай пяшчоты радкі, звернутыя да першай жонкі мастака Бэлы Розенфельд і напісаныя да чацвёртай гадавіны яе смерці.

Няма нічога нечаканага, што кніжачка вершаў Марка Шагала выдадзена на беларускай зямлі (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989, тыраж 5000 экз.), дзе яшчэ не заціхлі спрэчкі і страсці аб прызнанні і значэнні мастака. Бо наша краіна да апошняга часу была ледзь не адзінай сярод краін культурнага свету, дзе былі забаронены і імя мастака, і яго творы.

Выхад элегантнай кніжачкі Марка Захаравіча Шагала «Паэзія» — гэта прарыў з гвалтоўнага забыцця, гэта добрая прыкмета нашага складанага часу, часу галоснасці і перабудовы, у якім мы жывём, гэта паступовае вяртанне паэта і мастака на родную зямлю.

**М. БЕЛЬСКІ.**

г. Адэса.

## Позірк у мінулае

**Барыс САЧАНКА**

# МУРАЎЁЎ-ВЕШАЛЬНІК

*Асоба Мураўёва павінна апошні раз прайсці перад нашымі вачыма ва ўсёй злачыннай гнюснасці сваёй... Змоўшчык, які выйшаў з турмы з павышэннем у чыне, генерал, які не бываў у баях, рабалепны нахабнік, выкрыты казнакрад — выкаранялнік злоўжыванняў, кат, інквізітар, што канчае жыццё за смяротнымі прысудамі...*

*А. І. ГЕРЦЭН.*

...НА ПАЛЕССІ бытуе павер'е: каб ніколі не ўваскрос той, хто, жывучы, рабіў зло, трэба пасля яго смерці высячы асінавы кол і забіць у магілу...

МІХАІЛ МІКАЛАЕВІЧ — так яго звалі — Мураўёў нарадзіўся ў 1796 годзе ў Маскве. Ні ў дзяцінстве, ні потым, у час вучобы ва універсітэце, ён асаблівых здольнасцей не выявіў. Тым не менш, будучы студэнтам, арганізаваў таварыства матэматыкаў, якое ставіла мэту распаўсюджваць матэматычныя веды. Да таварыства прымкнулі не толькі студэнты, але і некаторыя выкладчыкі. За старшыню яго быў абраны бацька Мураўёва — генерал-маёр М. М. Мураўёў, у доме якога і праводзіліся заняткі. На базе гэтага таварыства паступова ўзнікла вучылішча калонаважатых, — яно рыхтавала афіцэраў рускай арміі, як тады называлі, па «квартирмейстерской части». Калі пачалася вайна 1812 года і Напалеон са сваім войскам уварваўся ў Расію, Мураўёў-малодшы паступіў у світу імператара Аляксандра І, удзельнічаў у Барадзінскай бітве і быў паранены. Аднак, паправіўшыся, не пакінуў вайсковай службы, а накіраваўся за мяжу, дзе пры штабе рускай арміі праслужыў да 1815 года, пасля чаго вярнуўся ў Маскву і пачаў працаваць у вучылішчы калонаважатых, якім кіраваў яго бацька. Напісаў і выдаў некалькі падручнікаў для навучэнцаў вучылішча, прымыкаў да тайных таварыстваў дзекабрыстаў. Быў арыштаваны. Але яго не судзілі, як некаторых, бы паспеў апраўдацца і пакаяцца, выдаўшы пры гэтым усё, што ведаў. Гэта па-належнаму было ацэнена, і М. М. Мураўёва-малодшага зноў узялі на дзяржаўную службу. У 1826 годзе яго прызначаюць віцэ-губернатарам у Віцебск. На гэтай пасадзе Мураўёў прабыў нядоўга — ужо ў 1828 годзе яго пасылаюць губернатарам у Магілёў. Прыехаўшы на новую пасаду, першае, на што звярнуў сваю ўвагу губернатар — гэта што ў судаводстве тут карыстаюцца Літоўскім статутам і беларускай мовай. У спецыяльнай запісцы на імя імператара Мікалая І ён хадайнічаў пра неабходнасць адмены Літоўскага статута і ўвядзенне ў судаводства і кіраванне рускай мовы. Імператар Мікалай І не марудзіў з адказам — 1 студзеня 1831 года выдаў закон аб адмене Літоўскага статута і забароне карыстацца беларускай мовай у судах і ў афіцыйных установах на ўсёй тэрыторыі Беларусі. У той самай запісцы на імя імператара Мікалая І былі і іншыя прапановы, якія датычылі змен у Заходнім краі, як тады пачалі называць Беларусь. Так, напрыклад, прапаноўвалася ў навучальных установах неадкладна перавесці выкладанне ўсіх прадметаў на рускую мову, адхіліць каталіцкае і уніяцкае духавенства ад выхавання моладзі і г. д.

У 1830 годзе Мураўёў працаваў у штабе рускай арміі і падаўляў паўстанні, што ўспыхвалі ў Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай губернях, наладжваў масавыя расправы над усімі, хто ўдзельнічаў у паўстанні. Менавіта ў тыя гады, у час падаўлення сялянскага бунту, у Крошыне была зачынена апошняя беларуская школа ў Беларусі, якую арганізаваў ксёндз Магнушэўскі, быў арыштаваны, а потым здадзены на дваццаць пяць гадоў у салдатчыну адзін з яе вучняў, паэт Паўлюк Багрым. У 1831 годзе Мураўёў прапанаваў зачыніць Віленскі універсітэт (сярод 48 выкладчыкаў там было 36 беларусаў), лічачы яго галоўным рассаднікам непакоры і сепаратызму. Па яго прапанове на Беларусі была скасавана Унія і былі забаронены казані на беларускай мове ў святынях (1839 г.), а ў 1840 годзе «Государь Император повелеть изволил», каб не ўжываць нідзе, ні ў адным афіцыйным дакуменце назваў Беларусь і Літва.

Жорсткасць, з якой абыходзіўся з тутэйшым людам Мураўёў, прымушала ўлады не трымаць яго на адным месцы, перакідваць з губерні ў губерню. Так, у 1831 годзе яго прызначаюць губернатарам у Гродна, у 1832 — у Мінск, потым у Курск... І ўсюды, дзе б ні апынуўся, ён пакідаў пра сябе нядобрую памяць. Даслужыўся Мураўёў да кіраўніка міністэрства дзяржаўнай маёмасці, ператварыўшы яго з міністэрства, што павінна было клапаціцца пра сялян, у міністэрства па здзіранню з іх сямі скур для папаўнення дзяржаўнай казны. Ён распрацаваў новыя, проста драконаўскія законы аб абкладанні падаткамі і іх спагнанню і ўвёў іх у дзеянне сваімі ўказамі ад 11 і 23 студзеня 1859 г., што выклікала абурэнне не толькі ў сялян, а і ва ўсёй перадавой рускай грамадскасці. Мураўёў быў адным з самых непахісных і заядлых абаронцаў прыгону, арганізаваў партыю памешчыкаў-прыгоннікаў і стаў адным з яе лідэраў-кіраўнікоў. У 1861 г. пад напорам грамадскасці ён змушаны быў пакінуць пасаду, а яшчэ праз год і зусім пайшоў у адстаўку.

ПРА МУРАЎЁВА ўспомнілі, калі ў 1863 годзе ўспыхнула ў Заходнім краі новае паўстанне Ён жыў тады ў Пецярбурзе, нават не паспеў яшчэ пераехаць з казённай кватэры ў свой уласны дом. Выкліканы да імператара Аляксандра II, адразу ж даў згоду на прызначэнне яго Віленскім генерал-губернатарам з незвычайнымі, фактычна дыктатарскімі паўнамоцтвамі. У падначаленне яго пераходзілі і ўсе іншыя шэсць Паўночна-Заходніх губерняў (сёмая, Аўгустоўская, перайшла ў яго падначаленне крыху пазней). 1 мая 1863 года адбылося афіцыйнае прызначэнне на новую пасаду, а ўжо 12 мая Мураўёў выехаў цягніком у Вільню. Па дарозе ён спыніўся ў Дзінабурзе (цяпер Даўгаўпілс) і ў спецыяльным вагоне накіраваўся ў крэпасць, дзе выступіў з прамовай перад прадстаўнікамі дваранства і прыняў самыя рашучыя захады да абароны крэпасці на выпадак нападу паўстанцаў. Там жа ён даў сваю згоду на пакаранне смерцю графа Лявона Платэра, прысуджанага за сувязь з Рэвалюцыйным Камітэтам да расстрэлу.

14 мая Мураўёў прыехаў у Вільню. Пасяліўся ён у Палацы — рэзідэнцыі генерал-губернатараў горада. На наступны дзень, раніцою, сабраўшы гарадскія ўлады і прадстаўнікоў усіх саслоўяў, саноўна, пры ўсіх сваіх рэгаліях, выйшаў з вялізнай світай і прывітаў вайскоўцаў і гвардыю, перадаў ім падзяку ад імператара. Потым прыняў грамадзянскіх чыноў, і сурова напомніў ім пра іх абавязкі, не забыўшы пры гэтым папярэдзіць, што калі хто не згодны з палітыкай царскага двара і асабіста яго, то павінны адразу ж пайсці ў адстаўку. Асаблівы прыём быў аказаны праваслаўнаму духавенству, бо менавіта на яго рабіў сваю галоўную стаўку генерал-губернатар. Каталіцкае духавенства ён прыняў толькі на наступны дзень і патрабаваў падаць прыклад адданасці законнай уладзе, і яшчэ — каб яно прыняло ўсе неабходныя меры да спынення паўстання.

— Я не магу адказваць ні за чые погляды, — запярэчыў яму Літоўскі мітрапаліт Іосіф.

— Але вы несяце адказнасць за погляды сваіх падначаленых, — быў адказ генерал-губернатара.

І каб, мабыць, даказаць каталіцкаму духавенству, што ён не мае намеру жартаваць, у Вільні было праведзена першае публічнае пакаранне смерцю — быў расстраляны ксёндз Ішора. Вось як апісвае гэтую падзею адзін з непасрэдных яе ўдзельнікаў:

...22 мая. Ускалыхнулася ўся Вільня. З раніцы на вуліцах, рынках і плошчах б'юць барабаны: абвяшчаюць пра смяротнае пакаранне — яно адбудзецца сёння ж. На вуліцах незвычайны рух — усе імкнуцца ў адзін бок, на прадмесце Лукішкі, дзе павінна адбыцца кара. З натоўпам людзей бягу туды і я. Вось плошча з фатальным слупам — уся яна запоўнена людзьмі; на ўзгорках, што акружаюць яе, шматлікія купкі жанчын у жалобным адзенні. Пачуліся крыкі: «Вядуць! Вядуць!» Надыходзяць жахлівыя хвіліны. Сэрца б'ецца часцей як звычайна, цяжка дыхаць. Чытаюць прысуд; шматтысячны натоўп нібы анямеў. Усіх аглушае залп стрэлаў, за ім — стогн жанчын... Тут, у дзесяць гадзін, паводле прыгавору ваеннага суда быў расстраляны адзін з зачыншчыкаў бунту, вікарны ксёндз жмудскага касцёла Лідскага павета Станіслаў Ішора». («Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі», Мн., 1940, т. 2.) Віна пакаранага смерцю была ў тым, што ён прачытаў адзін з маніфестаў паўстанцаў парафіянам, што сабраліся ля касцёла.

Праз два дні былі расстраляны там жа, на Лукішках, стары ксёндз Раймонд Зямацкі і сын памешчыка Альберт Ляскоўскі — яны таксама абвінавачваліся ў тым, што чыталі сялянам рэвалюцыйны маніфест, а, значыцца, падбухторвалі сялян да бунту...

Адна за адной з'явіліся самыя розныя забароны — весці перапіску і ўжываць польскую мову ў афіцыйных установах, насіць жалобу і рэвалюцыйныя знакі, наладжваць палітычныя маніфестацыі, без дазволу ўлад выязджаць з горада, жыць без пашпарта, без ліхтароў выходзіць на вуліцу пасля дзевяці гадзін вечара... у пачатку чэрвеня быў пакараны смерцю праз павешанне — прычым вешалі двойчы, бо першы раз парвалася вяроўка — паўстанец, дваццацідвухгадовы шляхціц з Лідскага павета Балеслаў Кольшка, а потым, праз нейкі час, вядомы польскі публіцыст, камандуючы ўзброенымі сіламі паўстанцаў Ковенскай губерні Зыгмунт Сераkоўскі — паранены ў сутычках з царскімі войскамі, ён быў узяты ў палон і амаль два месяцы правёў у турэмным шпіталі... Мураўёў падсылаў да паўстанца свайго родзіча князя Шахаўскога, які быў знаёмы з Сераkоўскім па вучобе ва універсітэце, каб выведаць хоць што-кольвечы пра паўстанне. Але гэта Шахаўскому не ўдалося. Тады, раззлаваны Мураўёў сказаў: «Я яго не расстраляю, я яго павешу». І павесіў — пасля таго, як ваенна-судовая камісія вынесла Сераkоўскаму свой прысуд. Мураўёў, зацвярджаючы яго, распарадзіўся: «Згаджаючыся з меркаваннямі ваенна-судовай камісіі, я вызначаю: Сераkоўскага пакараць смерцю, але замест расстрэла — павесіць...» У ноч перад павешаннем Мураўёў зноў прапанаваў Сераkоўскаму, спасылаючыся на волю імператара, купіць жыццё здрадай. Але Сераkоўскі з гневам адхіліў гэта...

Расправай над паўстанцамі — праз расстрэлы, павешанне — Мураўёў не

(Працяг на стар. 14—15).

# МУРАЎЁЎ-ВЕШАЛЬНІК

(Пачатак на стар. 13).

абмежаваўся. Неўзабаве былі прыняты новыя меры — паліліся, знішчаліся хутары і цэлыя вёскі, што падтрымлівалі сувязь з паўстанцамі ці аказвалі ім якую-небудзь дапамогу. Жыхары хутароў і вёсак, разам з жонкамі і дзецьмі, высылаліся ў Сібір, — адны без суда і следства, іншыя — з судом і следствам, хоць прыналежнасць іх да паўстанцаў не заўсёды даказвалася. Пры гэтым, у багатых рэквізаваліся маёнткі. Усяго з хутароў і вёсак было выслана ў Сібір больш за 5 тысяч чалавек...

Велізарнымі штрафамі і кантрыбуцыямі абкладваліся вёскі і маёнткі, у якіх бывалі паўстанцы ці хтосьці даносіў, што тыя там бываюць. Не дзіўна, сяляне самі лавілі паўстанцаў і выдавалі царскім чыноўнікам: баяліся быць пакаранымі. Насельніцтва, паводле загадаў генерал-губернатара Мураўёва, павінна было аплачваць утрыманне войск, што прысылаліся на падаўленне паўстання, прычым, людзі рускай нацыянальнасці плацілі ў дзесяць разоў менш, чым палякі, беларусы і літоўцы. Была распрацавана цэлая сістэма пабораў і штрафаў — за размовы «па-польску», за нашэнне жалобы; з каталікоў спаганяліся выдаткі за высылку з прыхода парафіян, утрыманне вясковай стражы і г. д. Ва ўсе паветы былі прызначаны новыя вайсковыя начальнікі, лясы прачэсваліся салдатамі, а то і зусім высякаліся... Генерал-губернатар звярнуўся з просьбай да епіскапа Красінскага, каб памагаў падаўляць паўстанне, а калі той адмовіўся гэта рабіць, выслаў яго ў Казань, дзе Красінскі пражыў да 1883 года, — тады толькі быў, нарэшце, адпушчаны за мяжу. Там ён і памёр.

Вядома, не ўсе жыхары карэнных нацыянальнасцей аказвалі супраціўленне царызму. Былі і тыя, хто пераходзіў да яго на службу. Супраць такіх паўстанцы арганізавалі «кінжальшчыкаў», якія каралі здраднікаў... Каб вылавіць «кінжальшчыкаў» і ўсіх, хто быў звязаны так ці інакш з паўстаннем, Мураўёў наняў цэлую армію даносчыкаў, якія днём і ноччу высочвалі ўсіх падазроных і паведамлялі куды трэба. Быў злоўлены і наш нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі, які пасля арышту многіх удзельнікаў паўстання стаў фактычна яго адзіным кіраўніком. Як апісвае біёграф М. М. Мураўёва А. Масалоў, гэта адбылося так:

«У ліку асоб, з якімі меў справу палкоўнік Лосеў*, быў адзін малады чалавек, найбольш дапушчаны ва ўсе таямніцы галоўных дзеячаў паўстання. Палкоўнік Лосеў зразумеў гэта, абяцаў выпрасіць памілаванне і пакарыстаўся яго шчырасцю. Малады арганізатар гэты выдаў не толькі галоўных кіраўнікоў паўстання і ўсе змены, што праходзілі ў іх складзе, але і само месца знаходжання Каліноўскага, з якім ён быў у самых блізкіх адносінах. Шыфраваная тэлеграма з паведамленнем пра гэта атрымана была ў Вільні ў 9 гадзін вечара; у ёй былі апісаны прыкметы Каліноўскага і сказана, што ён жыве з фальшывым пашпартам гродзенскага двараніна Вітольда Вітажэнца ў Светаянскіх мурах. Гэтыя апошнія абставіны былі крыху туманныя, бо гэтак называліся ўсе будынкі, якія належалі калісьці касцёлу Св. Яна, што займалі амаль цэлы квартал і выходзілі адным бокам да Палаца. У велізарных будынках, якія належалі калісьці Езуіцкай калегіі, а потым універсітэту, знаходзіліся: гімназія, музей старажытнасці, цэнтральны архіў, абсерваторыя, шмат кватэр для служачых і нават наймаліся прыватныя кватэры. Змест тэлеграмы захоўваўся ў глыбокай таямніцы. Паліцмайстру было даручана высветліць у *кнігах (яны толькі што былі прыведзены* да новага года ў парадак) дакладны адрас Вітажэнца і, як заўсёды здараецца пры паспешлівасці, імя яго было не заўважана пры разглядзе кнігі, хоць яно было там і ўпісана. Давялося зноў зрабіць вялізны вобыск і ачапіць увесь Св.-Янскі квартал, дзеля чаго спатрэбілася дзве роты салдат, раздзеленых на 10 партый пры афіцэрах паліцый і асобых чыноўніках. Імя асобы, якую патрэбна было арыштаваць, было аб'яўлена толькі ноччу перад вобыскам.

Каліноўскі наймаў ужо другі месяц пакой у кватэры аднаго настаўніка гімназіі, які паехаў кудысьці ў адпачынак. Яго заспелі на пляцоўцы лесвіцы з свечкаю ў руцэ і калі спыталі прозвішча, ён самаўпэўнена адказаў: «Вітажэнец» і ў тую ж хвіліну быў затрыманы... Першы дзень Каліноўскі толькі кусаў сабе губы, неахвотна нават адказваў на пытанні; але к вечару не вытрымаў і аб'явіў сваё сапраўднае імя. Нягледзячы на ўсе стаpанні членаў камісіі, ім не ўдалося вырваць у Каліноўскага падрабязнага паказання аб асобах, якія складалі рэвалюцыйную арганізацыю краю. Ён, аднак, шчыра прызнаўся, што быў распарадчыкам жонда ва ўсім краі, і, як відаць з паказанняў іншых асоб, ён умеў падтрымліваць рэвалюцыйны дух польскага насельніцтва, які пачынаў падаць. Багацеі яго баяліся, ён свабодна раз'язджаў між імі, натхняў нерашучых і запалохваў слабых. Каліноўскі быў гадоў 26, моцнага складу цела і з тварам жорсткім і выразным; кароткія русыя валасы былі зачасаны назад; такога бачыў я яго ў турме за некалькі дзён да смерці. Яму далі пяро і паперу і дазволілі свабодна выказваць свае думкі. Ён напісаў выдатнай рускай мовай даволі цікавае разважанне аб адносінах рускай улады да польскага насельніцтва Заходняга краю, у якім, між іншым, выказаў думку пра нетрываласць урадавых дзеянняў і поўную нянавісць да рускіх чыноўнікаў, якія прыязджалі ў край. Каліноўскі ўсведамляў, што з яго арыштам паўстанне немінуча патухне; але што ўрад не зможа пакарыстацца набытымі выгодамі...»

М. М. Мураўёў, як піша А. Масалоў, увесь час, пакуль ішло следства, праяўляў выключную цікавасць да справы К. Каліноўскага, сачыў за яе ходам, пастаянна пасылаў «чыноўнікаў сваіх» у Дамініканскі манастыр, які па ўказанню генерал-губернатара быў пераатвораны ў турму. К. Каліноўскі паводзіў сябе мужна. Нягледзячы на ўсе ўжытыя пры допытах катаванні, не ўдалося атрымаць тых звестак, якія былі патрэбны душыцелю паўстання і той следчай камісіі, якая вяла справу нязломнага рэвалюцыянера.

Пасля заявы, якую ён зрабіў следчай камісіі 26 лютага, стала зразумела, што дапытваць яго не мела сэнсу. Мураўёў, пазнаёміўшыся са справай, якая была яму дадзена, распарадзіўся: «Каліноўскага аддаць ваеннаму суду і закончыць гэты суд за трое сутак».

4 сакавіка 1864 г. суд вынес канчатковае рашэнне па справе Кастуся Каліноўскага: «За злачынствы яго, якія сведчаць пра вышэйшую ступень удзелу ў бунце супраць урада з падбухторваннем да таго іншых дзейсным распаўсюджваннем і падтрымкай паўстання... пакараць смерцю павешаннем».

Пасля суда Мураўёў на справе К. Каліноўскага наклаў такую рэзалюцыю: «Згодзен. Выканаць прысуд у Вільні».

«Пакаранне смерцю Каліноўскага, — піша А. Масалоў, — адбылося ўжо ў сакавіку ці ў канцы лютага 1864 г.* і было ці не апошнім у Вільні.

Была ясная халодная раніца; Каліноўскі ішоў на кару смела: прыйшоўшы на плошчу, ён стаў прама тварам да віселіцы і толькі час ад часу кідаў погляды на далёкі натоўп.* Калі яму чыталі канфірмацыю, ён пачаў рабіць заўвагі; так, напрыклад, калі назвалі яго імя: «Дваранін Вікенцій Каліноўскі», ён крыкнуў: «У нас няма дваран, усе роўныя!» Паліцмайстар паківаў яму галавою і папрасіў змоўкнуць...»

Але К. Каліноўскі не змоўк. Як стала зусім нядаўна вядома дзякуючы вучоным, якія даследавалі архіў часопіса «Русская старина», дзе ў 1883 (№№ 10—12) і ў 1884 (№1) гадах упершыню друкаваліся «Віленскія нарысы» А. Масалова, царская цэнзура выкрасліла там вельмі важныя словы, а менавіта: «З самых апошніх выкрыкаў Каліноўскага відаць было, што ён не толькі быў... паўстанцам, але дзіцем сусветнай сацыяльнай рэвалюцыі».

А. Масалоў, як і Мураўёў, як і ўсе тыя, хто дапытваў і катаваў выдатнага рэвалюцыянера, вядома, не ведалі пра «Пісьмо з-пад шыбеніцы», якое напісаў па-беларуску перад смерцю і таемна перадаваў на волю К. Каліноўскі.

Тым часам паўстанне, якое ўвайшло ў гісторыю як паўстанне 1863 года і якое не было па-належнаму падрыхтавана і падтрымана народам, без надзейнага кіруючага цэнтра, як гэта і прадбачыў К. Каліноўскі, доўга не магло існаваць — яно сапраўды неўзабаве патухла. Разрозненыя невялікія атрады паўстанцаў, сярод якіх быў і выдатны паэт Францішак Багушэвіч, пераходзілі мяжу ці шукалі сабе прытулку ў іншых месцах на вялікіх абсягах Расійскай імперыі. М. М. Мураўёў быў аб'яўлены ледзь не выратавальнікам Айчыны — яму пасыláліся віншавальныя адрасы, тэлеграмы, пісьмы, абразы... Газеты друкавалі яго партрэты, пісалі пра яго як пра нацыянальнага героя. П. А. Вяземскі, ды і іншыя паэты складалі ў яго гонар вершы...

Натхнёны ўсім гэтым, Мураўёў пачаў ажыццяўляць меры «по умиротворению и обрусению» краю, каб навечна прыяднаць яго да Расіі. Перш за ўсё ва ўсе паветы былі пасланы жандарскія каманды, якія павінны былі сачыць за ўсім, што адбываецца навокал, а найперш выяўляць тых, хто не пакарыўся царызму, мог аказаць супраціўленне. У склад гэтых камандаў уваходзіў афіцэр, які называўся начальнікам жандармерыі, і ад 16 да 30 унтэр-афіцэраў. Кожнаму з іх назначалася вялікая плата, каб даражылі сваёй службай. Зачыняліся каталіцкія манастыры, касцёлы і ператвараліся ў праваслаўныя цэрквы. Адабраныя ў высланых у Сібір польскіх, беларускіх і літоўскіх паноў маёнткі перадаваліся памешчыкам рускай нацыянальнасці, у некаторых выпадках, немцам. Усяляк падтрымлівалася праваслаўнае духавенства, наразалася яму ў валоданне казённыя землі, адкрываліся новыя прыходы. Заахвочвалася і перасяленне ў Заходні край рускіх, асабліва старавераў, выдзяляліся дзеля іх па льготных умовах землі, а найчасцей аддаваліся тыя паселішчы, з якіх былі высланы ў Сібір замешаныя ў паўстанні.

Чыноўнікам, што прыязджалі на службу ў Заходні край, Мураўёў дамогся надбаўкі «Содержания» — аж на пяцьдзесят працэнтаў, таму сюды рынулі чыноўнікі з усёй Расіі, выцясняючы выхадцаў з тутэйшых гарадоў і вёсак... Але і гэтага здалося Мураўёву мала. Каб «водворить здесь русскую народность», ён дамогся раздачы вольных землях унтэр-афіцэрам, звольненым у адстаўку. Рабіўся ўсялякі націск на мясцовых уладальнікаў маёнткаў, каб яны высяляліся і свае уладанні прадавалі. А каб рускія паны і чыноўнікі мелі за што гэтыя маёнткі набываць, былі спецыяльна выдзелены вялікія сумы грошай, — іх мог браць кожны, хто хацеў займець маёнтак у Заходнім краі. Словам, ён тварыў — ткаў тую «густую павуціну», пра якую У. І. Ленін пісаў: «Ні ў адной краіне няма такога мноства чыноўнікаў, як у Расіі... Армія чыноўнікаў, якія народам не выбраны і не абавязаны даваць адказ народу, саткала густую павуціну і ў гэтай павуціне людзі б'юцца, як мухі». (Ленин, Полн. собр. соч., т. 7, стар. 137). Паспешліва зачыняліся ранейшыя школы і гімназіі і адчыняліся новыя, у якіх навучанне вялося толькі на рускай мове.

«Чрезвычайно важный вопрос для начальных училищ округа, — пісаў папячыцель Віленскай вучэбнай акругі, у якую, як вядома, тады ўваходзіла Беларусь, Шырымаскі-Шахматаў міністру народнай асветы Е. В. Пуцяціну, — составляет язык, на котором должна быть преподаваема грамота. Конечно, преподавание русского яз. и других предметов на этом языке обязательно для всех училищ... В губерниях же Виленской, Гродненской и Минской большая часть населения говорит наречием белорусским; поэтому и народные училища в этих местностях должны быть чисто русскими. Но так как значительная часть жителей этих губерний принадлежит к римско-католическому исповеданию, то, не нарушая свободы совести каждого из них, для доставления им молиться на родном языке следовало бы главнейшие молитвы и краткий катехизис перевести на русский язык, равным образом производить на том же языке и преподавание закона божия в первоначальных училищах, а в приходах православных ввести и преподавание языка славянского... Привлечь на службу в округ как можно более способных и знающих людей чисто-русского происхождения, чего можно достигнуть усилением содержания... Здесь следует воскресить древнюю коренную русскую народность... Поэтому, директорские и инспекторские места должны быть предоставляемы преимущественно русским людям, способным и деятельным, душою преданным интересам своего отечества. Вызвать таких деятелей можно назначением им содержания, превышающего содержание директоров и инспекторов в России». (Дакументы і матэрыялы..., т. 2, стар. *555—557*).

У другім дакуменце той самы Шырыманскі-Шахматаў прапаноўвае і такое дзеля «миссионеров святого дела возвращения отторгнутого силою исторических событий от своей русской национальности племени, не утвержденного еще ни в вере отцов, ни в сознании, что оно вполне русское»: «Весьма важным пособием я считаю также издание особой книги для чтения в Западных губерниях, составленной с строгою осмотрительностью в духе главной цели...» (Там сама, стар. 558).

У неабмежаванай колькасці завозіліся кнігі, падручнікі, малітоўнікі, карціны духоўнага зместу, партрэты імператара, імператрыцы і іх дзяцей, і прадавалася ўсё гэта па самай таннай цане. Мяняліся шыльды на магазінах і ўстановах, уводзілася ва ўсім справаводстве толькі руская мова. Без ведання рускай мовы нікога не бралі на службу... На русіфікацыю краю не шкадавалі грошай — толькі на будаўніцтва праваслаўных цэркваў і сабораў штогод з казны адпускалася па 200 тысяч рублёў. Для арганізацыі царкоўнага будаўніцтва, ва ўсіх губернях уведзены былі спецыяльныя камітэты... Але Мураўёў не супакойваўся — пісаў адно за адным пісьмы імператару, міністрам, іншым уплывовым асобам, — у іх прапаноўваў новыя праекты па русіфікацыі краю, уплыву і ўмацаванню рускай праваслаўнай веры...

25 красавіка 1864 года М. М. Мураўёў паехаў сам са сваёй світай у Пецярбург. У Пецярбурзе яго сустракалі як героя — з вагона вынеслі ў знарок дзеля гэтай падзеі змайстраваным крэсле, на пероне быў выстраены ганаровы караул, графіня А. Д. Блудава падала хлеб-соль...

Дом, дзе пасяліўся Мураўёў, ператварыўся ў месца паломніцтва. Да «выратавальніка Айчыны» ехалі з усіх канцоў Расіі, каб ён узяў да сябе на службу, паслаў у Заходні край. Яго наведвалі сенатары, міністры, генералы... Цэлую дэпутацыю накіравала маскоўскае купецтва...

Само сабой зразумела, Мураўёў быў ласкава прыняты імператарам і той прасіў генерал-губернатара астацца кіраваць у Заходнім краі «колькі хопіць сіл». Тады ж М. М. Мураўёву быў дадзены тытул графа. У знак асаблівай павагі прыняла яго і імператрыца...

Гонар сапраўднага рускага народа, які не паддаўся на «патрыятычны» ўздым рэакцыі, і на гэты раз выратаваў вялікі рэвалюцыянер-дэмакрат А. І. Герцэн. У часопісе «Колокол», што, як вядома, выдаваўся за мяжою, ён змясціў некалькі матэрыялаў у абарону паўстанцаў і паўстання 1863 года. У дні ж рабскага рабалепства перад «вадзяным Неронам на Літве» ён надрукаваў фельетон «Партрэт Мураўёва», у якім навечна прыбіў да ганебнага слупа гэтага царскага сатрапа, ката-вешальніка. «Такога мастацкага падабенства між зверам і яго знешнасцю, — пісаў Герцэн, — мы не бачылі ні ў статуях Банароцці, ні ў бронзах Бенвенута Чэліні, ні ў клетках заалагічнага саду... Кат, замест кляйма, адзначыць сваімі рысамі паўшую частку рускага грамадства, тую, якая апладзіруе пакаранням смерцю, як перамогам, і выбрала гэтага выродка сваім вялікім дзеячам. Усе брылыянты імператарскай кароны і ўвесь алей памазання не выратуюць вянчаны лоб чалавека, які адшукаў дзесьці закінутага людаеда, каб яго пасладь на «умиротворение» няшчаснага краю.

Партрэт гэты няхай захоўваецца дзеля таго, каб дзеці навучыліся ненавідзець тых бацькоў, якія ў п'яным рабалепстве тэлеграфавалі любоў і

---

*Начальнік асобай камісіі, якая была паслана М. М. Мураўёвым у Мінскую губерню для навядзення там парадку.

*Дакладна — 10 (22) сакавіка 1864 г.

*Паводле ўспамінаў іншых сведак, К. Каліноўскі «як бы машынальна абводзіў вачыма натоўп, што яго акружаў, а можа быць, ён шукаў там каго-небудзь са сваіх таварышаў, хацеў даць зразумець якім-небудзь знакам, што таямніцу пра іх ён нясе з сабою ў магілу». (І. Нікоцін, «Русская старина», 1904, ліпень, стар. 110).

спачуванне гэтаму бясшыйнаму бульдогу, налітаму вадой, гэтай жабе з адвіслымі шчокамі, з напаўзаплыўшымі вачыма, гэтаму калмыку з выразам платаяднай злосці, якая дасягнула нейкай расліннай беспачуццёвасці...»

Дзейны, нястомны Мураўёў там жа, у Пецярбурзе, — «куй жалеза, пакуль гарачае», — склаў запіску цару, у якой выклаў свае меркаванні адносна будучыні Заходняга краю і кіравання ім. Галоўная думка, якая пранізвае гэтую запіску, — неабходнасць прызнаць Заходні край раз і назаўсёды рускім і весці ўсе справы тут, менавіта ў гэтым кірунку, каб у мясцовых жыхароў не ўзнікала нават думка адносна іншага лёсу.

«Для утверждения русского владычества в Северо-Западном крае, — пісаў ён, — необходимо принять следующие главные меры:

Упрочить и возвысить русскую народность и православие... В сих видах в особенности заняться прочным устройством быта крестьян и распространением общественного образования в духе православия и русской народности... Обратить особенное внимание на устройство возможно большего числа народных школ как в селениях, так и в городах. В этих школах преподавать самые элементарные знания и преимущественно русскую и славянскую грамоты, первые начала счисления, молитвы, первоначальные понятия о догматах православной веры и обучать пению в клиросе... Достаточно было бы оставить гимназии в губернских городах и, по особым уважениям, в виде исключения, в некоторых других местностях, преобразовав оные совершенно и заместив все преподавательские места учителями из России... Обратить особенное внимание на правильное преподавание русской истории и в особенности истории западной России... Подтвердить окончательно о повсеместном введении русского языка... во всех официальных и служебных сношениях, а также и в наружных изображениях всякого рода, особенно в местах, посещаемых народом... Немедленно все высшие служебные должности по всем ведомствам, а также все места, имеющие прикосновение с народом, заместить русскими чиновниками, прочие же должности замещать русскими постепенно... Заселять край русскими сколько возможно сосредоточеннее. Заселение это производить, не отстраняя старообрядцев, ибо они более других сохраняют русскую народность...» і г. д. (Дакументы і матэрыялы..., т. 2, стар. 573—575).

Большасць прапаноў М. М. Мураўёва атрымалі ўхвалу, па некаторых жа, напрыклад, прыёму ў навучальныя ўстановы і універсітэты (Мураўёў прапаноўваў прымаць толькі 10 працэнтаў мясцовых, а астатніх — рускіх) узніклі спрэчкі. Але і гэты пункт быў прыняты, праўда, з агаворкай, што ён будзе дзейнічаць як часовая мера... Сярод прапаноў Мураёўва была і прапанова спыніць друкаванне — кніг, газет, часопісаў — на беларускай мове. Гэтая прапанова была ажыццёўлена ў 1867 годзе спецыяльным загадам.

Дамогшыся амаль усяго, чаго хацеў, Мураўёў вярнуўся ў Вільню таксама як пераможца. Вядома, і ў Вільні яму была наладжана пышная сустрэча цемрашаламі-чарнасоценцамі, якіх ён прыгрэў ля сябе, а найперш — жандарамі і войскам...

7 ліпеня 1864 года ў Вільню прыехаў імператар Аляксандр II, каб публічна падтрымаць і натхніць на новыя, яшчэ больш рашучыя дзеянні Мураўёва, хоць той і без гэтага праводзіў паспяхова, па-дыктатарску палітыку рускага царызму ў Заходнім краі, павялічыўшы адразу ж пасля вяртання з Пецярбурга «содержание» свяшчэннікам і папам, замяніў гімназіі і прагімназіі на двухкласныя народныя вучылішчы. А. Масалоў піша, што «многа ахвяравана было на навучальную справу , можна сказаць, найбольш было зроблена дзеля «обрусения» краю гэтым самым плённым шляхам». У Вільні быў адчынены рускі тэатр, а на пабудову цэркваў асігнаванні былі павялічаны да 700 тысяч рублёў. Толькі за адзін год з 46 каталіцкіх і уніяцкіх манастыроў было зачынена 27...

Як і ў кожнага, у Мураўёва былі не толькі прыхільнікі, але і непрыяцелі. Сярод апошніх быў і вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч. Калі Канстанціна Мікалаевіча прызначылі Старшынёй Дзяржаўнага Савета, становішча дыктатара Заходняга краю пахіснулася. І гэта ён адчуў адразу ж, яшчэ калі вялікі князь праязджаў праз Вільню, кіруючыся ў Пецярбург. Канстанцін Мікалаевіч не выйшаў з вагона на перон, загадаў, каб генерал-губернатар сам да яго прыйшоў... Праўда, у сваіх запісах «Об управлении Северо-Западным краем и умиротворении в нем мятежа, 1863 г.», Мураўёў крыху інакш паказвае гэтую сустрэчу з Канстанцінам Мікалаевічам: «Пры праездзе ён спадзяваўся, што я сустрэну яго ў Вільні з усімі ўрачыстасцямі, як галоўнакамандуючага і царскага брата, і мне дадзена было па тэлеграфе ведаць аб выездзе яго з Варшавы». Аднак ён, Мураўёў, маўляў, такога нічога не зрабіў, — няйнакш збаяўся, што вялікі князь выкажа свае адмоўныя адносіны да яго публічна там жа, на пероне пры сведках... Баяцца было чаго — папаўзлі ж чуткі: Мураўёў не толькі падаўляў паўстанне, але не забываў і пра сябе — набіваў кішэні грашыма, якія браў усюды, нават бессаромна залез у дзяржаўную казну...

18 сакавіка 1865 г. Мураўёў пакінуў Вільню і зноў паехаў у Пецярбург. Гэты раз яму не была наладжана такая ўрачыстая сустрэча, як у папярэдні яго прыезд, хоць ён і спадзяваўся на яе — сустракалі толькі блізкія і знаёмыя. Гэта надта ж падзейнічала на генерал-губернатара, ён аж захварэў...

Імператар Аляксандр II прыняў свайго вернага васала толькі праз тыдзень, да таго ж зусім холадна. Мураўёў, адчуўшы, што ён прыйшоўся «не ко двору», змушаны быў прасіць вызваліць яго ад пасады... Аляксандр II толькі дзеля ветлівасці сказаў генерал-губернатару, каб не спяшаўся, даў час пашукаць пераемніка...

5 красавіка Мураўёў меў апошнюю сустрэчу з імператарам. Гэты раз даклад яго быў вельмі кароткі — ён папрасіў узнагародзіць некаторых блізкіх яму людзей, якія дапамагалі падавіць паўстанне і навесці парадак у Заходнім краі, а таксама выказаў свае меркаванні адносна ўмацавання там рускіх уплываў.

Роўна праз два гады пасля прызначэння — 1 мая 1865 года — ён быў вызвалены ад пасады генерал-губернатара... У Найвышэйшым рэскрыпце, які быў дадзены на імя генерала ад інфантэрыі графа Мураёўва Другога, падпісаным «шчыра вам удзячны Аляксандр» гаварылася:

«Граф Міхаіл Мікалаевіч. Я паклікаў вас да кіравання Паўночна-Заходнімі губернямі ў цяжкі час, калі вераломнае паўстанне, якое ўспыхнула ў Царстве Польскім, распаўсюджвалася ў яго межах і паспела пахіснуць ужо ў ім трывалыя асновы ўрада і грамадзянскага парадку...

Паўстанне падаўлена; моц урадавай улады адноўлена, грамадскі спакой устаноўлены і забяспечаны шэрагам мер, прынятых з уласцівай вам нястомнай дзейнасцю, распарадчасцю, веданнем мясцовых умоў і непахіснай цвёрдасцю. Вы звярнулі ўвагу на ўсе галіны кіравання ў давераным вам краі. Вы здзейснілі і ўмацавалі намечаную мною перабудову побыту сялянскага насельніцтва, у пераважнай большасці вернага свайму абавязку і цяпер зноў пацверджанага глыбокага ўсведамлення старажытнага і непарыўнага адзінства Заходняга краю з Расіяй. Вы паклапаціліся пра паляпшэнне побыту праваслаўнага духавенства, пра ўзнаўленне ў народнай памяці векавых святынь праваслаўя, садзейнічалі ўладкаванню і ўпрыгожванню праваслаўных храмаў і, разам з памнажэннем колькасці народных вучылішчаў, палажылі пачатак перабудовы іх у духу праваслаўя і рускай народнасці...»

Ад'язджаючы з Вільні Мураўёў пакінуў там надзейных наследнікаў чарнасоценцаў-русіфікатараў, якія прадаўжалі пачатую ім справу. Вось што пісаў адзін з іх:

«Михаил Николаевич Муравьев создал, ввел в действие эту систему; так она и должна оставаться навсегда. Боже, сохрани, если ее поколеблют. В нынешнее царствование мы увидели желанный результат—конец Кавказской войны. На Кавказе происходила борьба грудь с грудью с полудикарями и покончена русским штыком. Здесь своего рода Кавказ: нравственная, неоконченная борьба русских начал против враждебных политических и религиозных обществ. Бог даст, увидим при нашем государе конец и этой страшной и продолжительной нашей борьбы с интригами иезуитского лжехристианства, ксендзов и шляхты... Кроме школ, нам нужны книги... Книги по содержанию своему должны служить той цели, которую мы здесь преследуем, именно распространению православно-христианского учения и возбуждению в народе сознания, что он — русский». (Дакументы і матэрыялы... т. 2, стар. 582). Словам, як пісаў сам М. М. Мураўёў у адной з сваіх запісак цару: «Надобно всем и постоянно разъяснять, что край Северо-Западный всегда был и есть русский». (Там жа, стар. 584).

Пра Мураўёва ўспомнілі ў царскім доме пасля таго, як 4 красавіка 1866 года ўдзельнік рускага рэвалюцыйнага руху Дзмітрый Каракозаў ля варот Летняга саду ў Пецярбурзе страляў у імператара Аляксандра II. Тады Мураўёва зноў адшукалі і тэрмінова прызначылі старшынёй Вярхоўнай камісіі па разгляду гэтай справы. З якім энтузіязмам ён за яе ўзяўся! «Я шчаслівы, што пастаўлены гасударом на чале такой установы, якая павінна служыць выкрыццю злоснай задумы злачынца, — заявіў ён 10 красавіка 1866 г. на абедзе, наладжаным у зале пацярбурскага дваранскага сходу. — Я хутчэй лягу ў магілу, як пакіну нераскрытым гэтае злачынства, — злачынства не аднаго чалавека, але многіх, што дзейнічалі разам». Як піша той жа А. Масалоў, Мураўёў некалькі месяцаў ні ўдзень ні ўночы не меў спачыну, амаль не спаў — пісаў запіскі і пісьмы імператару, міністрам, іншым уплывовым асобам, у якіх імкнуўся даказаць, што вальнадумства і непакорнасць пусцілі ў Расіі глыбокія карані і трэба прымаць рашучыя і неадкладныя захады, каб усё гэта спыніць. Менавіта ў тыя дні самымі рэакцыйнымі сіламі тагачаснага рускага грамадства яму было наладжана некалькі ўрачыстых абедаў і вечароў, на адным з якіх М. А. Някрасаў, жадаючы выратаваць ад разгрому часопіс «Современник», рэдактарам якога ён быў, прачытаў напісаны ў гонар Мураўёва-Вешальніка свой верш, які заканчваўся словамі: «виновных не щади». Той верш М. А. Някрасаў адразу ж знішчыў, ніколі і нідзе яго не друкаваў, а сам факт чытання верша застаўся для паэта назаўсёды прадметам пакутлівых успамінаў і пакаяння.

Мураўёў спяшаўся закончыць даручаную яму справу, каб на фактах даказаць усё тое, што выкладаў у сваіх запісках і пісьмах, спрабаваў злучыць у адно — паўстанне ў Заходнім краі і рускія рэвалюцыйныя гурткі, удзельнікам аднаго з якіх быў Д. Каракозаў... Але завяршыць апошнюю сваю крывавую справу не паспеў — 31 жніўня раніцою яго знайшлі ў пасцелі мёртвага...

А. І. Герцэн у своеасаблівым некралогу «Вісельня і Мураўёў» з гэтага выпадку пісаў:

«За чатыры дні да пакарання смерцю Каракозава, у вяскова глушэчы, цёмнай ноччу, без сведак, без слоў пакаяння, без блізкіх і папоў, без слёз і дапамогі, задыхнуўся вампір, як бы адваліўся ад грудзей Расіі. Якія вобразы палохалі яго нямую агонію, ад каго ўцякаў ён, паміраючы без голасу, ці не прыходзіла «чорная жанчына», тая, якая ўяўлялася князю Гарчакову... ці не ішоў цэлы строй маладых герояў з вяроўкай на шыі?.. Ні гасудар, ні грамадства не змыюць плямы, якую ім пакінуў памёрлы кат. Імя Мураўёва застанецца выпаленым на царскім плячы, як імя Аракчэева на плячы Аляксандра І. Розніца ў тым, што Аракчэева ненавідзела мінулая Расія, а Мураўёва насіла на руках сучасная. Розніца ў тым, што Аляксандр І любіў Аракчэева і ведаў яго сумленнасць, а Аляксандр ІІ цярпець не мог Мураўёва і ведаў яго карыслівасць. Розніца ў тым, што Аляксандр І вылучыў Аракчэева бязмоўнай імперыі, а Мураўёва вылучыла рэакцыя (як нам асабіста хваліўся адзін з яе прадстаўнікоў) бязмоўнаму гасудару».

Пахавалі Мураўёва ў Пецярбурзе на могілках Аляксандра-Неўскай лаўры. На яго магіле была збудавана капліца — дакладная копія той, якая была збудавана ў Вільні ў памяць рускіх воінаў, тых, каго пасылаў ён на падаўленне паўстання 1863 года, толькі меншага памеру... Правесці ў апошнюю дарогу «выратавальніка» Айчыны «пожаловал» сам імператар Аляксандр II...

●

А яшчэ праз некаторы час — 1 сакавіка 1881 года збыліся і прарочыя словы А. І. Герцэна, які, як ужо гаварылася, папярэджваў: «Усе брыльянты імператарскай кароны і ўвесь алей памазання не выратуюць лоб чалавека, які адшукаў дзесьці закінутага людаеда, каб яго паслаць на «умиротворение» няшчаснага краю...»

Сын гэтага «няшчаснага краю», ураджэнец маёнтка Басін, што на Бабруйшчыне, рэвалюцыянер Ігнат Грынявіцкі кінуў бомбу ў Аляксандра II, — ёю быў забіты імператар і смяротна паранены сам выканаўца гэтага ўсенароднага прысуду...

**ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ**

# І ГУЧАЛІ ПЕСНІ...

Васіля Ягоравіча Зінькевіча добра ведае грамадскасць як аднаго са старэйшых выкладчыкаў Маладзечанскага музычнага вучылішча. У свой час ён закончыў кансерваторыю як музыказнавец-тэарэтык. Вайна, удзельнікам якой Васіль Ягоравіч быў у партызанскім злучэнні на Віцебшчыне, не дала яму магчымасці скончыць яшчэ і аддзяленне кампазіцыі. Але гэта не замінае душэўнаму прызванню В. Зінькевіча, і ўсё жыццё піша ён песні.

Нядаўна Маладзечанскае музычнае вучылішча наладзіла аўтарскі канцэрт самадзейнага кампазітара ў гонар ягонага 75-годдзя. Удзельнічалі ў канцэрце хор вучылішча, хор дзіцячай музычнай школы пры вучылішчы, хор ветэранаў вайны і працы Маладзечна, салісты, выкладчыкі вучылішча. У зале былі прадстаўнікі кіраўніцтва горада, госці з Мінска, педагогі і студэнты музычнага вучылішча.

Праграму канцэрта склалі песні В. Зінькевіча, у тым ліку і новыя, на вершы беларускіх паэтаў: Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага. Салістамі выступалі ўдзельнікі хору ветэранаў вайны і працы В. Глянцава, А. Бабёр, Л. Грынеўская і выкладчыкі вучылішча В. Валгін, Г. Баян-Ключнікава, Г. Юрэвіч. У заключэнне гэты ж хор пад кіраўніцтвам Н. Зінькевіч выканаў дзве песні: «Маладзечна» на словы самога



Выступае В. ЗІНЬКЕВІЧ.

В. Зінькевіча, які, дарэчы, нярэдка складае песні на ўласныя тэксты (песня адзначана прэміяй на конкурсе да 600-годдзя горада), і «Край мой беларускі, край» на вершы Н. Гілевіча.

Пасля канцэрта выступілі з прывітаннем госці—беларускія пісьменнікі Янка Брыль і Ніл Гілевіч. «Я вельмі рады, што паслухаў гэты незвычайны канцэрт»,—зазначыў, у прыватнасці, Я. Брыль. А Н. Гілевіч, на чые словы складзена вялікая колькасць песень В. Зінькевіча, сказаў: «Край мой, беларускі, край» вельмі мяне ўзрушыла, усхвалявала. Мне вядома, што на гэты тэкст напісана шмат песень, рознымі аўтарамі, але вось песня Васіля Зінькевіча найбольш прыпала да душы...».

Юбіляр шчыра падзякаваў усім сябрам і калегам, якія наладзілі гэты першы ў ягоным жыцці аўтарскі канцэрт.

**М. ЕРМАЛОВІЧ,**
**член Саюза пісьменнікаў БССР.**
г. Маладзечна.

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Ніне Галіноўскай з прычыны напаткаўшага яе гора—смерці маці.**

---

**Саюз пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Віктару Супрунчуку з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці бацькі.**

---

**Калектыў рэдакцыі часопіса «Полымя» выказвае спачуванне супрацоўніку часопіса, пісьменніку Супрунчуку Віктару Пятровічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.**

